ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№10 (139)
кастрычнік 2022 год
CATHOLICNEWS.BY

# Паведамленне Курыі Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі пра сустрэчу з прадстаўнікамі дзяржаўнай улады па справе Чырвонага касцёла

**14 кастрычніка ў Мінскім гарадскім выканаўчым камітэце адбылася сустрэча прадстаўнікоў Касцёла з прадстаўнікамі дзяржаўнай улады, на якой была абмеркавана актуальная сітуацыя парафіі святога Сымона і святой Алены ў Мінску (Чырвоны касцёл).**


Кс. Уладзіслаў Завальнюк моліцца на прыступках Чырвонага касцёла. Фота з адкрытых крыніц

У сустрэчы ўзялі ўдзел Упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Аляксандр Румак, намеснік старшыні Мінгарвыканкама Арцём Цуран, дырэктар КУП "Мінская спадчына" Аляксандр Кохан і іншыя дзяржслужачыя. Касцёл на сустрэчы прадстаўлялі Апостальскі нунцый у Рэспубліцы Беларусь арцыбіскуп Антэ Езіч, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Юзаф Станеўскі, прэс-сакратар Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі ксёндз-канонік Юрый Санько.

Была выказана агульная ўдзячнасць за магчымасць сустрэчы і спадзяванне на канструктыўны дыялог.

Дырэктарам КУП "Мінская спадчына" быў акрэслены план працаў па ліквідацыі наступстваў здарэння ў Чырвоным касцёле і па правядзенні маштабнага рамонту, каб прадухіліць падобныя здарэнні ў будучым.

Паводле Аляксандра Кохана, паколькі працы прадугледжаны ва ўсёй святыні, знаходжанне ў ёй немагчымае. На сённяшні дзень святыня адключана ад усіх камунікацый, што таксама робіць немагчымым яе выкарыстанне.

Упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцяў спадар Румак падкрэсліў, што "гэта – касцёл і ім ён застанецца, толькі цяпер мы павінны канструктыўна спрацаваць, каб правесці рамонт".

Арцыбіскуп Станеўскі выказаў заклапочанасць не толькі тым, як будзе выглядаць перанясенне рухомых рэчаў, але і тым, дзе яны будуць захоўвацца. Іерарх таксама звярнуўся да кампетэнтных уладаў з просьбай аб выдзяленні памяшкання ў межах парафіі, дзе часова можна б было здзяйсняць набажэнствы і арганізаваць парафіяльнае жыццё.

Была выказана просьба пра ўключэнне касцельнага прадстаўніка ў склад камісіі для даследавання пашкоджанняў, якія ўзніклі ў выніку ўзгарання і для правядзення рамонтных працаў.

Была ўнесена прапанова для стварэння на высокім узроўні двухбаковай рады для вырашэння і абмеркавання пытанняў, звязаных з рамонтам і рэканструкцыяй.

Напрыканцы сустрэчы было выказана агульнае жаданне працягваць супрацоўніцтва.

*Catholic.by*

# Што вядома пра сітуацыю з Чырвоным касцёлам?

**Сайт парафіі святога Сымона і святой Алены ў Мінску chyrvony.by, дзе ў касцёле 26 верасня здарыўся пажар і на дадзены момант святыня зачыненая, 11 кастрычніка паведаміў пра дзеянні, якія прадпрымаюць парафіяне разам з пробашчам кс. Уладзіславам Завальнюком.**

1 На адрас КУП "Мінская спадчына" былі накіраваныя лісты з просьбай пра строгае выкананне патрабаванняў пратакола (№5 ад 26 верасня 2022 г.) пасяджэння камісіі па надзвычайных сітуацыях пры адміністрацыі Маскоўскага раёна горада Мінска, а менавіта дапусціць упаўнаважаных прадстаўнікоў парафіі да абследавання пашкоджаных канструкцый са складаннем супольнага акта абследавання, вопісу маёмасці і вызначэння месца захавання па кожнай пазіцыі. Названы пратакол таксама патрабуе стварыць супольную камісію па вызначэнні нанесенай пажарам шкоды.

2 Накіраваны запыт у Следчы камітэт Рэспублікі Беларусь аб прадастаўленні інфармацыі па выніках праведзеных следчых дзеянняў.

3 Парафія накіравала на адрас Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь адкрыты ліст.

4 Ксёндз-пробашч Уладзіслаў Завальнюк надалей трывае ў чыстым посце на вадзе, які ахвяруе ў інтэнцыі вяртання Чырвонага касцёла вернікам.

5 Парафія па-ранейшаму патрабуе малітоўнай дапамогі кожнага неабыякавага верніка, каб Найсвяцейшы Сакрамант як найхутчэй мог вярнуцца ў храм і не быў бы прыніжаны Божы дом.


Стар. 5
Почему дьявол ненавидит Марию (и почему мы должны Её любить)?


У Магілёве адбыўся VI Ружанцовы кангрэс
Стар. 8


Стар. 14
Як стаць катэхетам у парафіі?


Стар. 6
Жизнь в телефоне: почему мы выбираем виртуальную реальность


Рэліквіі бласлаўлёных мучаніц з Навагрудка ўнесены ў касцёл у Глыбокім
Стар. 10

# У Ватыкане ўручаць Прэмію Ратцынгера за 2022 год

**Папа Францішак 1 снежня ў Клеменцінскай зале Апостальскага палаца ўручыць Прэмію Ратцынгера за 2022 год французскаму і амерыканска-італьянскаму навукоўцам.**

Першым лаўрэатам стаў 69-гадовы Мішэль Феду – французскі святар, езуіт і тэолаг. З 1987 года яго жыццё звязанае з Езуіцкім цэнтрам Сеур, дзе ён спачатку быў выкладчыкам дагматычнай тэалогіі і патрыстыкі, а затым – дэканам тэалагічнага факультэта і старшынёй. Ён з'яўляецца чальцом радаў розных тэалагічных аб'яднанняў і камісій па экуменічным дыялогу з лютэранамі і праваслаўнымі. Аўтар шматлікіх прац, у першую чаргу, у галіне патрыстыкі і хрысталогіі.

Яшчэ адзін сёлетні лаўрэат – 71-гадовы Джозэф Халеві Хоравіц Вайлер – выкладчык права ў многіх універсітэтах і інстытутах правазнаўства ў ЗША, у тым ліку ў Нью-Ёрку і Гарвардзе, а таксама ў Вялікабрытаніі і ў розных частках свету. Ён быў старшынёй Еўрапейскага універсітэцкага інстытута Фларэнцыі. Аўтар шматлікіх прац па канстытуцыйным, міжнародным, еўрапейскім праве і правах чалавека. З'яўляючыся вызнаўцам юдаізму, абараняў Італію ў Еўрапейскім судзе ў справе прысутнасці крыжоў у школах. Мае ганаровую ступень Каталіцкага універсітэта Амерыкі.




Прэмію Ратцынгера прысудзілі сёлета ўжо ў дванаццаты раз. Яна ўручаецца за папулярызацыю тэалогіі ў сучасным свеце. Эксперты называюць яе Нобелеўскай прэміяй у галіне тэалогіі. Ініцыятарам узнагароды з'яўляецца Ватыканскі фонд імя Ёзэфа Ратцынгера – Бэнэдыкта XVI. Яго стварыў сам Пантыфік і ахвяраваў у яго даходы ад сваёй літаратурна-тэалагічнай дзейнасці. Падтрымліваюць Фонд і дабрачынцы.

# Апублікавана праграма папскага падарожжа ў Бахрэйн

**Зала Друку Святога Пасаду апублікавала праграму папскага візіту ў Бахрэйн. Ён пройдзе з 3 па 6 лістапада. Папа Францішак наведае Авалі і Манаму, дзе прыме ўдзел у форуме на карысць дыялогу.**

Пантыфік прыбудзе на авіябазу Сахір у Авалі 3 лістапада каля 16.45. У гэты дзень, акрамя цырымоніі прывітання, запланаваныя дзве сустрэчы: з каралём Бахрэйна, а таксама з прадстаўнікамі ўлады, грамадзянскай супольнасці і дыпламатычнага корпусу.

На наступны дзень, 4 лістапада, Папа Францішак прыме ўдзел ва ўрачыстым закрыцці бахрэйнскага форуму на карысць дыялогу: Усход і Захад за чалавечае суіснаванне (Bahrain Forum for Dialogue: East and West for Human Coexistence). Пасля абеду яго чакае размова з Вялікім імамам Аль-Азхара, а затым – з мясцовай Мусульманскай радай старэйшын. Завершыць дзень экуменічная сустрэча і малітва за мір у катэдры Маці Божай Аравійскай.

5 лістапада Пантыфік прысвеціць мясцовай каталіцкай супольнасці. Спачатку ён прыме ўдзел у Імшы на Бахрэйнскім нацыянальным стадыёне, падчас якой прамовіць гамілію, а затым у мясцовай Школе Найсвяцейшага Сэрца правядзе сустрэчу з моладдзю.

У апошні дзень візіту, 6 лістапада, Папу Францішка чакае сустрэча з духавенствам, кансэкраванымі асобамі, семінарыстамі і душпастырскімі супрацоўнікамі. Яна адбудзецца ў касцёле Найсвяцейшага Сэрца ў Манаме. Там ён узначаліць малітву Анёл Панскі.

Вяртанне Папы ў Рым чакаецца вечарам таго ж дня.


Катэдра Маці Божай Аравійскай

*По матэрыялах старонкі беларускай рэдакцыі Vatican News*


Кадр са стужкі "У падарожжы" (In viaggio)

## Падарожжы Папы Францішка сталі натхненнем для фільма

**Новы 80-хвілінны фільм, які 4 кастрычніка выйшаў у пракат, – гэта сінтэз дзевяці гадоў падарожжаў Папы і больш чым 600 гадзін відэаматэрыялу, – прызнаўся італьянскі рэжысёр Джанфранка Розі.**

Натхненнем для дакументальнай стужкі "У падарожжы" стаў візіт Святога Айца ў Ірак у 2021 годзе. Рэжысёр адзначыў, што яго ідэя – стварыць фільм пра Пантыфіка не з дапамогай "ідэалагічнага ці тэалагічнага падыходу, а праз узнаўленне універсальнай гісторыі".

"Лічу, што гэта кіно – разважанне пра наш кульгавы свет і пра стан чалавека (...) Ён не дае адказаў, ён імкнецца стаць падарункам для тых, хто спрабуе нешта змяніць (...). Кожны з нас павінен задаць сабе пытанне: якая наша пазіцыя ў адносінах да свету, у адносінах да таго, што адбываецца?" – сказаў Розі ў інтэрв'ю Vatican News.

Творца прызнаўся, што яго ўразіла ўменне Папы прасіць аб прабачэнні, таксама асабіста. "На мой погляд, тут ёсць вельмі важны момант, таму што прызнанне ўласных памылак – гэта штосьці глыбока "боскае". Магчыма, гэта яшчэ адно пасланне фільма: мы павінны зразумець свае ўласныя памылкі, асабіста і як супольнасць", – сказаў італьянскі рэжысёр.

Прэм'ера прайшла адначасова ў 190 кінатэатрах і больш чым у ста парафіяльных залах Італіі.

## Папа даверыў Багародзіцы сітуацыю ў М'янме, Украіне і Камеруне

**Папа Францішак даверыў Багародзіцы вырашэнне складаных сітуацый у М'янме, Украіне і Камеруне. Адмысловы заклік ён скіраваў перад малітвай Анёл Панскі, якую правёў 25 верасня ў горадзе Матэра.**



На заканчэнне святой Імшы, якая прайшла з нагоды закрыцця 27-га Нацыянальнага эўхарыстычнага кангрэсу, Пантыфік заклікаў даручыць Панне Марыі, эўхарыстычнай Жанчыне, шлях Касцёла ў Італіі, каб у кожнай яго супольнасці адчуваўся водар Хрыста, жывога Хлеба, Які сышоў з Неба, а таксама заахвоціў прасіць Багародзіцу аб матчыным заступніцтве ў самых тэрміновых патрэбах свету.

У першую чаргу Святы Айцец скіраваў свае думкі да насельніцтва М'янмы. "На гэтым тыдні да мяне дайшоў крык болю з прычыны гібелі дзяцей у разбомбленай школе. Мы бачым, што сёння ў свеце існуе мода – бамбіць школы. Няхай жа крык гэтых дзяцей не застанецца непачутым. Такія трагедыі не павінны паўтарацца", – сказаў Папа.

"Няхай жа Марыя, Каралева супакою, суцешыць шматпакутны ўкраінскі народ і выпрасіць для кіраўнікоў народаў сілу волі, каб яны неадкладна знайшлі эфектыўныя ініцыятывы, якія прывядуць да завяршэння вайны", – дадаў Пантыфік.

Папа далучыўся таксама да закліку біскупаў Камеруна пра вызваленне васьмі чалавек, выкрадзеных у дыяцэзіі Мамфэ, сярод якіх – пяць святароў і адна законніца. "Малюся за іх і за насельніцтва касцельнай правінцыі Бамэндзі: няхай Пан адорыць мірам у сэрцах і грамадскім жыцці гэту дарагую краіну", – сказаў Папа Францішак.

# Нунцый ва Украіне: трэба маліцца аб навяртанні тых, хто пачаў вайну

**"З кожнай бомбай, з кожнай ракетай гінуць людзі, не кажучы ўжо пра іншую шкоду", – пракаментаваў расійскія ракетныя ўдары Апостальскі нунцый ва Украіне арцыбіскуп Вісвальдас Кульбокас.**

"Пасля месяцаў інтэнсіўнай вайны мы разумеем, што ў любы момант, у любы дзень могуць адбыцца новыя напады, падобныя да сённяшняга. Не толькі на Кіеў, але і на іншыя месцы. Я бачыў у навінах, што атакавалі як мінімум 15-16 гарадоў. Атрымаць поўную інфармацыю няпроста, бо, напрыклад, у нас няма тэлефоннай сувязі са Львовам ці Цярнопалем. Мяркуючы па ўсім, пацярпелі розныя важныя аб'екты інфраструктуры", – сказаў дыпламатычны прадстаўнік Папы ў інтэрв'ю Vatican News.

Арцыбіскуп Кульбокас заўважыў, што ў Кіеве некаторыя супрацоўнікі нунцыятуры не змаглі прыйсці на працу, а ўвесь горад застаўся практычна паралізаваным, "таму што падчас трывогі такога характару нават на заканадаўчым узроўні забаронена ажыццяўляць калектыўную працу, рабіць закупы, аказваць тэхнічныя паслугі".

Нунцый нагадаў, што кастрычнік у Касцёле асаблівым чынам прысвечаны ружанцовай малітве, але, на яго думку, ва Украіне ўжо даўно трывае "няспынны кастрычнік": многія людзі перажываюць вайну, пакуты, страту сваіх блізкіх з глыбокай малітвай. Ён заклікаў працягваць прасіць Бога пра дар міру праз заступніцтва Панны Марыі.

Папскі дыпламат распавёў, што Касцёл актыўна дапамагае насельніцтву Кіева: сховішчамі для людзей служаць сутарэнні каталіцкіх храмаў, прычым не толькі для вернікаў, але і для жыхароў суседніх дамоў, а парафіі з'яўляюцца месцамі, дзе можна атрымаць інфармацыю і гуманітарную дапамогу. "Дыяцэзіяльныя і парафіяльныя ячэйкі Caritas застаюцца вельмі актыўнымі, выязджаючы ў раёны, якія непасрэдна пацярпелі ад нападаў", – сказаў ён.

Арцыбіскуп Кульбокас падкрэсліў, што жыхары Украіны горача прагнуць міру, але, як казаў Папа, мір павінен быць справядлівым, не ілюзорным. "Мы, бясспрэчна, не хочам толькі бачнасці міру, але сапраўднага міру, сапраўднай змены сэрцаў, у першую чаргу тых, хто распачаў вайну", – сказаў нунцый, дадаючы, што ў гэтым сэнсе самай галоўнай "зброяй" з'яўляецца малітва. – На мой погляд, іншага выйсця няма, акрамя малітвы і навяртання тых, хто вінаваты ў гэтай вайне", – заключыў прадстаўнік Святога Айца.


Супрацоўнік ратавальных службаў Украіны дапамагае ахвяры ракетнага абстрэлу Кіева.

*Аляксандр Панчанка,*
*беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*

# Католическая епархия в Нидерландах закроет 60% церквей

**Католическая епархия Хаарлема и Амстердама в Нидерландах объявила, что 60% ее церквей должны быть закрыты в течение следующих пяти лет из-за сокращения прихожан, волонтеров и доходов, сообщило издание The Pillar.**

Епископ Ян Хендрикс обнародовал планы Хаарлемско-Амстердамской епархии на встрече с 90 приходскими администраторами, которая состоялась в сентябре.

Епархия, которая была учреждена в 1559 году, охватывает провинцию Северная Голландия на северо-западе Нидерландов, а также южную часть провинции Флеволанд. Она включает в себя Амстердам, столицу страны и самый густонаселенный город.

Епископ Ян Хендрикс, который возглавляет епархию с 2020 года, сказал, что "пандемия коронавируса ускорила процесс сокращения, в котором мы уже находились: верные прихожане преклонного возраста стали еще старше, и некоторые перестали посещать церковь. Другие привыкли к иному формату воскресного утра, волонтеры ушли, хоры сократились".

Епархиальные власти заявили, что 99 из нынешних 164 католических церквей должны будут закрыться через пять лет. Из оставшихся 65 церквей 37 могли бы оставаться "поддерживающими церквями" в течение пятидесяти лет, и только 28 "центральных церквей" считаются жизнеспособными в долгосрочной перспективе.

Генеральный викарий монсеньор Барт Puттер сказал 26 сентября, что у епархии нет списка церквей, которые необходимо закрыть, но он надеется, что местные общины сами назначат "центральные церкви".

"Идея состоит в том, чтобы создать 28 активных мест евангелизации. И мы надеемся, что приходские священники и приходские правления смогут это понять", – сказал Puттер.

Цифры, представленные на встрече в сентябре, показали, что число массовых посетителей сократилось с более чем 25 000 в 2013 году до 12 000 в 2021 году.

"Участие резко сократилось за многие годы. Это не недавнее событие", – обратил внимание монсеньор Барт Puттер, который также отметил, что в 1950-х годах около 80% католиков посещали Мессу по сравнению с примерно 3% из 425 000 крещеных католиков, которые насчитываются в епархии сегодня.

Харлемско-Амстердамская епархия – не единственная голландская католическая епархия, столкнувшаяся с финансовыми трудностями. По сообщениям, епархия Рурмонда в традиционно католическом центре южных Нидерландов также попросила некоторые приходы сократить Мессы из-за растущих счетов за электроэнергию и нехватки священников.

Представитель епархии Матеу Бемельманс сказал: "Иногда просто невозможно найти священника, который будет служить в каждой церкви каждые выходные. Если есть церкви с небольшим количеством посетителей, мы говорим: будьте практичны и пропустите неделю и убедитесь, что эти люди могут посещать Мессу в другой церкви".

В Нидерландах примерно 3,7 миллиона католиков, что составляет 21,7% от общей численности населения, составляющего почти 18 миллионов человек. В 1970 году католики составляли почти 40% населения.



*Седмица.Ru*



# У Іспаніі, нягледзячы на пагрозы пакарання, людзі моляцца перад клінікамі абортаў

**Гэтая ініцыятыва стала першай пасля таго, як улады Іспаніі ўхвалілі ў лютым гэтага года закон, згодна з якім на асобаў, што спрабуюць паўплываць на рашэнне жанчыны адмовіцца ад аборту, можа быць накладзена пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін ад трох да дванаццаці месяцаў.**

Між тым, як патлумачыла ў прэс-рэлізе група адвакатаў, што падтрымліваюць акцыю "40 дзён для жыцця", у адпаведнасці з іспанскай Канстытуцыяй паліцыя не можа караць за нібыта парушэнне правa людзей, каторыя маліліся ў грамадскім месцы, напрыклад, на вуліцы каля клінікі абортаў.

"Маліцца без кантакту з людзьмі, якія ідуць на аборт, не з'яўляецца парушэннем закона", – заявілі іспанскія юрысты, што супрацоўнічаюць з акцыяй "40 дзён для жыцця".

Як пішуць барселонскія СМІ, у Каталоніі адной з мэтаў акцыі "40 дзён для жыцця" з'яўляецца прыцягненне ўвагі грамадскасці да пашырэння аўтаномным урадам гэтага рэгіёна магчымасці абортаў, што супярэчыць унутранаму заканадаўству Іспаніі.

Адзначаецца, што забойства плоду з дапамогай фармакалагічных сродкаў было дазволена да 14 тыдняў цяжарнасці, гэта значыць, на пяць тыдняў даўжэй, чым прадугледжана нормамі нацыянальнага заканадаўства. Дэпартамент аховы здароўя каталонскага ўрада ўдакладніў, што на тэрыторыі Каталоніі пасля дзявятага тыдня цяжарнасці можна будзе праводзіць медыкаментозны аборт толькі ў шпіталях.

*deon.pl*
*пераклад **Марыны Ткач***

# З успамінаў ксяндза Юзафа Дзям’яна

*Працяг, пачатак – у №№ 8-9*

**Працягваем публікацыю гістарычнага дакумента – часткі ўспамінаў ксяндза Юзафа Дзям’яна, якая асвятляе яго працу на тэрыторыі сённяшняй Віцебскай дыяцэзіі ў міжваенны перыяд. У час, які апісваецца ва ўспамінах, Заходняя Беларусь уваходзіла ў склад Польшчы. У адпаведнасці з касцельным адміністрацыйна-тэрытарыяльным дзяленнем – гэта Віленская дыяцэзія. Сённяшняя публікацыя не вельмі тыповая, паколькі, хоць і апісвае штодзённасць Параф’янава ў 30-я гг. ХХ ст., аднак асноўная ўвага тут надаецца нешараговаму здарэнню, каторае мела месца ў мястэчку ў 1934 г.**

■ **Раіса Зянюк**, *кандыдат гістарычных навук*



**Кс. Ю. Дзям'ян**, *фотаздымак са збораў Архідыяцэзіяльнага архіва ў Беластоку*

**Ксёндз-вікарый у Параф’янаве**

Ксёндз-дэкан Тэжык, пробашч у Параф’янаве, быў у вялікім сяброўстве з мясцовым старастам павета ў Глыбокім, які часта наведваў ксяндза-дэкана. У Параф’янава я прыехаў цягніком, і са станцыі прыйшоў на плябанію пешшу, акурат трапіў на абед пасля канферэнцыі сабраных тут усіх ксяндзоў з дэканату. Ледзь я паспеў прадставіцца ксяндзу-дэкану і прывітацца са святарамі, адразу ж увайшоў мясцовы начальнік паліцыі з рамнём на падбародку, гэта значыць службова, і запытаўся ў мяне, ці я – гэта я? І сказаў, што мусіць са мной паразмаўляць прыватна па важнай справе. Гэта зрабіла на дэкана і прысутных шакавальнае ўражанне. Ксяндзы сказалі: ну такога вікарыя ксёндз-дэкан яшчэ не меў. Што гэта за птушка, услед за якой ходзіць паліцыя? Пасля некалькіх хвілінаў размовы са мной кіраўнік паліцыі пайшоў, а я, ужо вельмі засмучаны, з’еў абед.

Такім жа засмучаным я быў і на працягу некалькіх тыдняў, бо паліцыя для расследавання прыходзіла да мяне а першай гадзіне ўночы. На маё пытанне, ці мала маюць часу ўдзень, адказвалі, што такі маюць загад. Што ж, загад мусім выканаць...

У школу на заняткі па рэлігіі я не ездзіў, а ездзіў ксёндз-дэкан, а я быў заняты канцылярскай і душпастырскай працай: шлюбы, хросты, казанні, споведзь – звычайна гэтым займаўся я. Я быў заняты таксама “Акцыяй Каталіцкай” і рознымі сходамі, якія часта адбываліся.

Раптам у Параф’янаве вырашылі паставіць помнік Пілсудскаму, а паколькі на яго сабралі мала грошай, то вырашылі вымураваць памятную дошку з надпісам: “Героям, якія загінулі ў абароне Айчыны”. Арцыбіскуп згадзіўся на асвячэнне дошкі восенню, у нядзелю. У дзень, вызначаны на асвячэнне дошкі, сабралася шмат багацеяў, абшарнікаў, купцоў, афіцэраў з КОП, а таксама чыноўнікаў як з гэтага, так і з суседніх паветаў, усяго каля 150 чалавек, а сам староста павета не змог прыехаць і адправіў свайго намесніка, які нядаўна прыбыў у павет. Капелан, каторы павінен быў прамаўляць казанне, не прыехаў, таму па загадзе ксяндза-дэкана прамовіў казанне я, за якое мяне нават хвалілі.

Пасля гэтага пасвячэння скіраваліся на ўрачысты абед у мястэчка, дзе ўсё было падрыхтавана ў трох залах у будынку вялікай, новаўзведзенай пажарнай станцыі. У самай вялікай зале за сталом сядзела каля ста чалавек. Падчас абеду намеснік старасты пасля таго, як выпіў два кілішкі, нібы звар’яцеў. Я сядзеў насупраць яго і ўсё бачыў. Ён устаў і пачаў прамаўляць: “Польшча ўлезла на гістарычную арэну, ходзіць па гэтай арэне і не можа з гэтай арэны злезці”. І ўсё паўтараў гэта. Жанчыны ўжо пачалі з гэтага смяяцца. Спынілі такую яго прамову нацыянальным гімнам, які зайграў аркестр. Ледзьве палкавы аркестр сціх, ён ізноў: “Польшча ўлезла на гістарычную арэну і ходзіць, і круціцца па той арэне”. Яго прамову перарваў нейкі маёр, які ўзлез на крэсла і пачаў хваліць польскае войска. Староста крычаць: я нікому не дазваляю прамаўляць, калі я хацеў яго выручыць і гэта прапанаваў. Той маёр, аднак, не слухаў і гаварыў, тады староста стаў крычаць: д’яблы возьмуць ваша войска разам з рэзервам, бо гэта г**** варта! “Ксёндз, палезем пад стол, – кажа мне нейкі абшарнік, які сядзеў ля мяне, і ўлез пад стол, – бо гэта абраза войска, будзе страляніна, давайце палезем пад стол”. Страляніны не было, ваенныя зрабілі выгляд, быццам бы гэтага не чулі. Двое афіцэраў падышлі і вывелі гэтага прамоўцу-старасту з нашай залы.

Афіцэры завялі віцэ-старасту ў іншую залу, дзе быў падрыхтаваны буфет, і аддалі яго ў рукі малодшых афіцэраў. Тады віцэ-староста пажадаў, каб яму далі папіць вады. Буфетчыца наліла газіроўкі і дала яе віцэ-старасту, а ён залез на гэты буфет і, п’ючы там ваду, ударыў шклянкай з вадой, якую піў, у галаву буфетчыцы, якая, акрываўленая, пачала страшна крычаць. У гэты час віцэ-староста хапаў талеркі з закускамі – салатамі, курыцай, заліўной рыбай, мясам – і кідаў у кожнага, хто толькі галаву падымаў. На крык буфетчыцы прыбегла некалькі жанчын з суседняй залы, то і іх віцэ-староста закідаў салатамі з вялікіх талерак, пазаляпваў ім сукенкі, а адной з іх порцыя салаты трапіла на завіўку, і з галавы спаўзала на яе сукенку каляровымі патокамі. У яе пачаліся канвульсіі, і жанчыны хутка яе прыкрылі і адвезлі ўласнай машынай да дому пад яе крыкі. Віцэ-староста працягваў бамбардаваць, кідаючы талеркі, вялікая колькасць якіх была падрыхтаваная на гэты прыём.

У рэшце рэшт аднаму сяржанту ўдалося, паўзучы на карачках, улезці за буфет і схапіць віцэ-старасту за ногі, але той трымаўся за шафу са сталовымі прыборамі, і яна рухнула на зямлю. Малодшыя афіцэры, схапіўшы віцэ-старасту за рукі і ногі, вынеслі яго на падворак перад пажарнай часткай і кінулі на бочкі, якія стаялі ў лужыне. Адразу ж сабраўся вялікі натоўп гледачоў, пераважна сялян, каторыя па-беларуску абмяркоўвалі: глядзі, як старасту б’юць. Паліцыянты адразу ж выцягнулі віцэ-старасту – прадстаўніка старасты – і занеслі яго ў найбліжэйшы дом, але праз хвіліну ён пачаў трушчыць і той дом. Тады яго завезлі да староства, дзе, абляпанага ў гразь, перадалі ў рукі старасты, каторы яму падзякаваў за такую рэпрэзентацыю ўлады.

Назаўтра з’явіліся на плябаніі староста і павятовы камендант паліцыі, які ўвесь дзень праводзіў следства, запоўнілі шмат пратаколаў і хацелі, каб я адзін пратакол падпісаў, бо я павінен быў штосьці сказаць, а віцэ-староста мне не дазволіў. Тая мая прамова павінна была быць сапраўды прыгожай, таму камендант увесь вечар яе пісаў і прасіў мяне толькі той пратакол і прамову падпісаць. Калі я разважаў, ці падпісваць мне гэты пратакол, староста мне сказаў так: я ведаю, што на ксяндза ёсць справа ў пракурора, і калі я падпішу пратакол, то ён адразу ж яе ліквідуе, бо я яму скажу ў таямніцы, што хоць суды ў нас незалежныя, але перад судом справу разглядае ваяводства, і калі хтосьці мае добрую характарыстыку, то справу даюць пракурору Х, які ведае, што заўсёды справу трэба замяць. А калі хтосьці мае дрэнную характарыстыку, то аддаюць іншаму пракурору, каторы заўсёды пакарае. Таму прашу тэкст вашай прамовы і пратакол падпісаць, і ўбачыце, што справа будзе скончаная. Зрэшты, прашу злітавацца над галодным камендантам, які ўвесь дзень пiша пратаколы. Мы хочам гэтага авантурыста моцна пакараць і з ім скончыць, бо ён мае моцную пратэкцыю, таму мы павінны атрымаць усё, што толькі магчыма.

І я адразу ж той пратакол падпісаў. Праз нейкія два тыдні я атрымаў заказны ліст ад пракуратуры з Вільні – мая справа была скончаная ў сувязі з адсутнасцю віны. Тым часам доўга пра гэты скандал, які меў месца ў Параф’янаве, гаварылі яшчэ. Той віцэ-староста, маючы моцную пратэкцыю ў міністэрстве, застаўся, а старасту Стэфануса перавялі за тое, што сам не прадстаўляў урад, а даверыў гэта іншаму. Яго перавялі ў Кобрын, а мяне хутка накіравалі на пасаду прэфекта ў Гонёндз.

# Цікавая знаходка

**По меры краязнаўчых пошукаў з’яўляюцца знаходкі, якія раскрываюць штораз новыя дэталі з гісторыі нашага краю. Часам гэтыя знаходкі сведчаць пра дробныя рэчы, але яны ўзбагачаюць нашае ўяўленне і разуменне мінулага. Часта бывае, што адна знаходка дапамагае разблытаць іншую.**

■ **Кастусь Шыталь**, *краязнаўца*

У мінулым годзе я праглядаў галерэю фотаздымкаў на сайце Літоўскага нацыянальнага мастацкага музея. Сярод іх было некалькіх фота Глыбокага, якія зрабіў у 30-я гады ХХ ст. мастак, прафесар Універсітэта імя Стэфана Батория ў Вільні Ежы Хопэн. На адным са здымкаў бачная фігура святога Антонія. Гэты святы, шанаваны на землях усёй былой Рэчы Паспалітай, заўсёды выяўляўся з кветкай лілеяй і Дзіцяткам Езусам на руках. Па фота было відаць, што фігура стаяла ў нейкай нішы, але не было падпісана, дзе. Я адклаў знаходку, не спрабуючы ўдакладніць месца гэтай фігуры.

Патлумачыць месца, дзе знаходзілася фігура, дапамагала іншая знаходка. Летам краязнаўца Юры Калбасіч адшукаў у адной глыбоцкай сям’і серыю фотаздымкаў, зробленых у Глыбокім у 50-я – 60-я гады ХХ стагоддзя. На іх выяўлены могілкі Копцеўка і каплічка з нішай, у якой бачная тая самая фігура, што была на здымку Ежы Хопэна.

Такім чынам, на карту вядомых гістарычных сакральных аб’ектаў Глыбокага дадаецца яшчэ адзін – каплічка святога Антонія. Хто і калі яе пабудаваў – невядома. У адрозненне ад касцёлаў і большых капліц, яна не ўзгадваецца ў інвентарах, а фундацыйны дакумент на яе не падпісваўся.



*Фота фігуры* - **Ежы Хопэн.**

Цалкам верагодна, аднак, што яна магла быць збудаваная ў канцы XIX – пачатку XX стст. Лёс фігуры таксама невядомы. Магчыма, яна была страчаная ў 60-я гады, калі ў СССР узмацнілася антырэлігійная прапаганда, а моладзь, што на яе паддавалася, руйнавала крыжы і святыні.

Каплічка ж яшчэ стаіць. Можа, калі-небудзь у каганебудзь дойдуць рукі зноў паставіць у ёй, як і раней, фігуру святога Антонія.





*Сучаснае фота* - **Юры Калбасіч**

# Почему дьявол ненавидит Марию (и почему мы должны Её любить)?

**Сатана ненавидит Пресвятую Деву Марию. Более того, он делает всё, чтобы отвратить людей от её почитания и внушить к ней ненависть. Вы когда-нибудь замечали, что догматы, касающиеся Марии, и Её почитание вызывают наибольшую реакцию у тех, кто отвергает Церковь? Даже некоторые добрые католики стыдятся почитания Богородицы и чувствуют, что мы не должны заходить в Её почитании слишком далеко.**

■ **Сэм Гузман**, *catholicgentleman.com*

Возможно, вы тоже задавались вопросом, почему Церковь так высоко ставит Непорочную Деву. Возможно, вы задаётесь вопросом, почему Бог избрал Её, чтобы использовать в деле искупления. Сегодня я бы хотел рассмотреть, почему дьявол так сильно ненавидит Богородицу и почему мы должны быть Её верными рыцарями.

**Она будет поражать тебя в голову**

Сцена в саду Эдема. Действующие лица: Бог, змей, Адам и Ева. Дьявол триумфально ухмыляется. Он только что искусил Еву, а через неё – Адама. Как же он горд собой. Можно практически почувствовать эту демоническую гордыню разрушения, ведь он успешно омрачил дело Божьего творения и втянул людей – творение, которое Бог особенно любит – в смерть и унижение.

Бог появляется на сцене, чтобы привести всё в порядок, объявить о трагичном следствии греха, но также возвестить Протоевангелие – первый намёк на Евангелие и на судьбу дьявола.

Бог начинает, обращаясь к Сатане, говоря ему, что тот будет есть прах до конца своих дней. Затем Он открывает нечто, что сводит сатану с ума от ужаса – его финальное поражение придёт от женщины.

“...И вражду положу между тобою и между женою, и между семенем твоим и между семенем ее; оно будет поражать тебя в голову, а ты будешь жалить его в пяту”.

Исследователи спорят, относится ли местоимение, употреблённое во фразе “оно будет поражать тебя в голову”, к мужскому, женскому или среднему роду? Иными словами, относится ли к Деве Марии (во втором случае) или к Иисусу Христу (в первом и третьем). Но я расскажу вам маленький секрет: это неважно. Понимаете, Христос собирается сокрушить Сатану через Марию. Она есть инструмент, который Иисус использует, когда окончательно сокрушит древнего врага.

Помня об этом, совершенно законно говорить “он будет поражать тебя в голову”, “оно будет поражать тебя в голову” или “она будет поражать тебя в голову”. Это всё равно, что сказать вооружённому захватчику: “ещё один шаг и я застрелю тебя” или “...и мой пистолет снесёт тебе голову” или “...и моё оружие остановит тебя”. Все эти фразы не противоречат одна другой.

Так почему же факт поражения от рук Марии столь сильно коробит дьявола? Почему Бог хочет использовать Марию, чтобы победить Сатану? Давайте объясню.

**“Низложил сильных с престолов...”**

Дьявол ненавидит, просто не выносит тот факт, что его конечное поражение придёт от рук смиренной рабы. В некотором смысле, его горделивое сердце способно вынести идею поражения от рук Самого Бога, потому что Тот всемогущ. Но быть сокрушённым смиренной девушкой из Назарета? Эта мысль абсолютно унизительна, она сводит его с ума. Ибо если и есть что-то, что ненавидит самое могущественное творение во вселенной, так это быть униженным.

Сатана считает поражение от рук Девы Марии унизительным, потому что Она – женщина, а женщины слабее (1 Пет 3, 7), а он презирает слабость. Ничто не нравится ему больше, чем видеть, как женщин используют, унижают и рассматривают как объект. Не говорю о том, что Дева Мария – человек, а Сатана ненавидит людей, потому что у нас есть тела, а он, как чистый дух, считает, что тела отвратительны. Но есть и другая, более глубокая причина ненависти Сатаны к Марии: Она его замена на небесах.

Понимаете, изначально Люцифер был высшим творением Бога. Он был прекраснее, могущественнее, чем всякое другое создание Божие. И как мы все знаем, это вскружило ему голову. Он был столь великолепен, столь могуч, что решил, что может быть лучше, чем Бог. Определяющий знак Сатаны – это гордыня и зависть к Всемогущему.

А каковы определяющие характеристики Пресвятой Девы? Во-первых, и в-главных, Она совершенным образом смиренна. Она самое смиренное создание во всём Творении. На каждый грамм гордыни дьявола у Марии в два раза больше смирения. На каждую каплю ненависти и зависти, наполняющие чёрное сердце Сатаны, сердце Марии наполнено в два раза большей хвалой, поклонением и любовью. На каждое извращение и порочность в сердце дьявола сердце Марии наполнено чистотой и плодовитостью. И по Своей благодати Бог сделал Её самым изысканным и славным из всех творений – тем, чем был когда-то дьявол.

Со всех сторон Непорочная является полной противоположностью Сатаны. Как ни смотри, Она его замена, и он знает это. Замена Сатаны на Марию, совершённая Богом, открывается в гимне хвалы Богородицы, Магнификате:

***Величит душа Моя Господа,***
***и возрадовался дух Мой о Боге, Спасителе Моем,***
***что призрел Он на смирение Рабы Своей, ибо отныне будут ублажать Меня все роды;***
***что сотворил Мне величие Сильный, и свято имя Его;***
***и милость Его в роды родов к боящимся Его;***
***явил силу мышцы Своей;***
***рассеял надменных помышлениями сердца их;***
***низложил сильных с престолов и вознес смиренных;***
***алчущих исполнил благ и богатящихся отпустил ни с чем;***
***воспринял Израиля, отрока Своего, воспомянув милость,***
***как говорил отцам нашим, к Аврааму и семени его до века.***

В Магнификате мы видим красиво изложенную роль Марии в истории Спасения.

Смирение Марии: “Призрел Он на смирение Рабы Своей”. Чудесную благодать Божию, излитую на неё: “Сотворил Мне величие Сильный, и свято имя Его”. Изгнание Сатаны Богом: “Рассеял надменных помышлениями сердца их, низложил сильных с престолов...”

Бог возвысил Марию на место Сатаны: “...И вознёс малых”.

Хуже всего для Сатаны то, что его заменила на небесах никто иной, как Матерь Предвечного Слова, Иисуса Христа, чьи страдания и смерть искупили то самое человечество, которые Сатана так старательно пытался уничтожить. Её “да” Богу распутало непослушание Евы, проложив путь спасительному делу Нового Адама. Та самая слабость Евы, которую столь презирал Сатана, была заменена послушанием Марии, послушанием воле Божией, которое сделало Её могущественной безо всяких границ.



Таков божественный замысел, чтобы нанести поражение Его врагу. Таково унижение и рок Сатаны.

**Гуд бай, Сатана**

Если вы ещё не поняли, Сатана ненавидит вас. Его горькая зависть побуждает его разрушать Божье творение, тащить его в бездну ада. Ничто не по нраву ему больше, чем видеть вас – образ Божий – присоединившимся к нему в вечном пламени огненного озера, ибо страдание любит компанию.

Но не бойтесь. Древний змей бессилен против Непорочной Девы, ибо в Божьем замысле Она есть инструмент, который Иисус использует, чтобы унизить и уничтожить его. Хотите ли вы поразить дьявола в голову в вашей жизни? Хотите ли безопасно достичь нашего вечного Дома через все невзгоды, искушения и бури? Ответ прост: призовите Марию. Любите Её, будьте Её ревностным слугой. Будьте Её рыцарем, Её защитником, Её апостолом. Посвятите себя Ей полностью и без остатка. Ибо ничто, принадлежащее Ей, не будет потеряно.

Сатана безумствует, обрушивает столько хаоса сколько может, ибо знает, что дни его сочтены. Он боится, и он очень зол, ибо знает что однажды, очень скоро, он будет сокрушён Женой, которая заставляет его сердце дрожать, Женой, которая “блистающая, как заря, прекрасная, как луна, светлая, как солнце, грозная, как полки со знаменами” (Песнь Песней 6:10).

*Перевод статьи unasancta.ru*

**Молитва**

**Великая Царица Небесная и Царица Ангелов!**

**Ты приняла от Бога силу и повеление поразить Сатану в голову, поэтому просим Тебя: ниспошли нам легионы небесные, чтобы под Твоим водительством они могли изгнать всех злых духов, победить их в битве, обуздать их дерзость и отправить их обратно в бездну ада. “Кто как Бог?”**

**О, добрая и любящая Матерь, будь всегда нашей надеждой и нашей любовью!**

**О Матерь Божия, пошли святых ангелов, чтобы защитить меня и увести меня от жестокого врага.**

**Святые ангелы и архангелы, защищайте и храните нас!**

# Жизнь в телефоне: почему мы выбираем виртуальную реальность

**Современный быстроменяющийся мир с техническим прогрессом и расширяющейся сетью интернет не только улучшил уровень и качество жизни людей, но, к сожалению, также поспособствовал появлению гипертрофированных потребностей и новых поведенческих реакций. И, прежде чем разбираться в том, почему мы постоянно наблюдаем людей, уткнувшихся в экраны своих телефонов, почему мы выбираем виртуальную реальность, обозначу два момента.**

■ Марина Ткач, *психолог*

Во-первых, жизнь современного человека без телефона была бы сложна и неэффективна. Потому что в телефоне находится всё, в прямом смысле слова. Это учеба, работа, банк, такси, покупки, различная навигация и т.д. Согласитесь, после перечисленного телефон в нашей жизни не кажется уж таким исчадием ада. Просто цифровая эпоха наступила быстрее, чем мы успели к ней адаптироваться, поэтому и относимся как к чему-то чужеродному, попрежнему удерживая в памяти воспоминания, что раньше все было по-другому.

Во-вторых, частое или постоянное использование телефона действительно может привести к зависимости или номофобии. Ещё 15-20 лет назад такой проблемы, как зависимость от телефона, просто не существовало. А сейчас довольно часто мы из хозяев мобильных телефонов постепенно превращаемся в их рабов. Увы, но это так. Что делать? Для начала не винить себя, ведь нет нашей вины в том, что мы родились именно сейчас, а не двумя тысячами лет ранее. И, конечно же, следует помнить, что все разумно и полезно в меру!

Возвращаясь к вопросу, почему мы выбираем виртуальную реальность, что еще может послужить этому причиной, есть смысл поговорить о таком понятии, как отчужденность жизни.

**Состояние отчуждения возникает тогда, когда исчезает чувство личной сопричастности к тому, что делаешь.**

И неважно где: на работе, дома, с друзьями или в одиночестве. Отчужденный человек не видит смысла в том, что он делает, он не имеет никакой личной заинтересованности, это ощущение бессилия и невозможности что-либо поменять.

Признаками отчуждения выступают **формализм, скука,** которая возникает там, где собственные желания и потребности или "задвигаются" подальше, или вовсе предаются забвению. **Ощущение жизни "на автопилоте", ощущение личной несвободы,** когда человек думает: "Я чувствую себя чужим в этой жизни. За меня все решают другие. Я никогда не буду тем, кем хочу. **Одиночество,** ощущение того, что тебя никто не может понять, **ощущение пустоты, опустошенности.**

Все мы продолжительное время живем в ситуации неопределенности, когда любая попытка что-либо контролировать или изменить не заканчивается успехом. Именно в такой ситуации проблема отчуждения приобретает новые аспекты. Наиболее остро эта проблема возникает в период "перехода" социума на новые уровни развития. Чем сильнее перемены в обществе, там острее проблема отчуждения.

**Виртуальная реальность в состоянии отчуждения кажется более привлекательной и простой, ведь там можно быть тем, кем в реальной жизни быть не получается.**

А ещё достаточно легко реализовывать потребности во внимании, любви, реализации посредством роли транслятора. Выкладывая фото и видео, публикуя посты, мы тем самым реализовываем вышеупомянутые потребности.

Мы с головой "уходим" в телефон, чтобы получать удовольствие: видеть лайки под нашими постами, получать комментарии и письма, любоваться красивыми картинками, играть, читать анекдоты, общаться, следить за новостями. Находясь в виртуальной реальности, у нас возникает ощущение контроля. Мы легко можем занести человека в "черный" список, если общаться с ним нам трудно или неприятно. Количество негативных новостей легко корректируется изменением параметров настроек. Согласитесь, подобного не сделаешь в реальной жизни.

Жажда причастности – еще один момент, из-за которого мы делаем выбор в пользу виртуального мира. Так называемый синдром FoMO (Fear of Missing Out – страх что-нибудь пропустить). Это невротическое желание первым узнавать новости и быть в курсе всего.

В случае невозможности быть в курсе событий, когда мы не можем хвататься за телефон каждую минуту, возникает навязчивое ощущение параллельной вселенной, в которой время течет быстрее и интереснее, чем в твоей.



Для примера, когда мы просматриваем в сети фотографии наших многочисленных друзей, возникает чувство причастности: я тоже с ними, я такой же успешный, как они. И тогда собственная жизнь на время, пока ты сидишь в сети, не кажется такой сложной и безрадостной. Это своего рода иллюзия, которая имеет место быть.

Стоит отметить, что мы берем в руки телефон и просиживаем в нем часами не только для того, чтобы радоваться, но и для того, чтобы злиться, возмущаться и раздражаться.

Дофамин – не единственный гормон, который вырабатывается у активного пользователя интернета. За агрессивное поведение отвечает целая группа гормонов: тестостерон, адреналин, вазопрессин и т.д. И к этому коктейлю привыкнуть еще легче, чем к гормону радости. Именно по этой причине негативные посты собирают большую аудиторию, чем посты позитивные. Да и позлиться в интернете нам гораздо проще, чем в реальной жизни.

Затронутая тема, безусловна, непростая, и в каждом конкретном случае она требует индивидуального подхода и решения. Важно понимать одно: люди, которые фактически живут в телефоне, – это потерявшиеся люди. Люди, которые не знают, как жить здесь, в реальном мире, поэтому и пытаются найти выход из сложившейся ситуации с помощью безграничных возможностей интернета. Как к этому относится, каждый решает сам.

Я лишь хочу сказать, не стоит пытаться выбирать, какой жизнью лучше жить – реальной или виртуальной. На мой взгляд, главная задача современного человека состоит в том, чтобы грамотно их совмещать и пользоваться преимуществами каждой из них, не впадая при этом в крайности.

# ГЭТА АПЫНУЛАСЯ НЯПРАЎДАЙ АБО ГЭТА АКАЗАЛАСЯ НЯПРАЎДАЙ?

***Як правільна сказаць па-беларуску?***

**Сярод пытанняў, якія чытачы "Каталіцкага весніка" задаюць аўтару нашай моўнай старонкі, нярэдка сустракаюцца і тыя, што датычаць дакладнасці словаўжывання, правільнасці выбару канкрэтнай лексічнай адзінкі ў адпаведнай маўленчай сітуацыі. Бо часта здараецца так, што пэўныя словы трактуюцца як сінанімічныя, узаемазамяняльныя, хоць насамрэч такімі не з'яўляюцца.**

■ Юрась Бабіч , *кандыдат філалагічных навук*

Нагодай для сённяшняга культурамоўнага матэрыялу стаў допіс нашай чытачкі з Браслаўшчыны спадарыні Ганны. Яна, у прыватнасці, пытаецца пра ўжыванне ў літаратурнай мове дзеясловаў **апынуцца** і **аказацца**. "На маю думку, – дзеліцца з намі сп-ня Ганна, – слова "аказацца" – не беларускае. Але я чую яго нават ад маёй знаёмай настаўніцы беларускай мовы. Напрыклад, *усё гэта аказалася падманам, няпраўдай... Як аказалася, хлопец нічога пра гэта не ведаў...* Дык у гэтых сказах, – працягвае сп-ня Ганна, – трэба замест дзеяслова "аказалася" выкарыстоўваць дзеяслоў "апынулася". Ці не так?"

І сапраўды, вельмі слушнае пытанне. Тым больш, што два названыя дзеясловы з высокай частотнасцю ўжываюцца ў штодзённай камунікацыі. Таму паспрабуем разабрацца, як павінна быць, як правільна сказаць па-беларуску.

Дзеяслоў **аказацца** мае наступныя значэнні: 1. *Стаць, з'явіцца ў рэальнасці* (Яна аказалася добрай настаўніцай); 2. *Знайсціся, быць у наяўнасці* (Ліў моцны дождж, усе былі мокрыя і брудныя, а чыстага адзення, каб пераапрануцца, не аказалася); 3. *Падаць голас, вестку, азваццa, загаварыць* (Калі б малы не аказаўся, не заплакаў, дык яго б ніхто і не заўважыў). Можна меркаваць, што ў апошнім прыведзеным значэнні лексема **аказацца** ўжываецца адносна рэдка і пераважна ў мастацкіх тэкстах.

Дзеяслоў **апынуцца** традыцыйна выкарыстоўваецца са значэннем "трапіць куды-небудзь, знаходзіцца ў нейкім становішчы" (Толькі позна ўвечары мы апынуліся дома; Цяпер яны зразумелі ўсю небяспеку, у якой апынуліся; Так сталася, што жанчыны апынуліся ў няволі). Адзначым таксама, што слова **апынуцца** ўваходзіць у склад устойлівых канструкцый, якія дастаткова часта ўжываюцца ў публіцыстычным і мастацкім стылях. Напрыклад, **апынуцца за бортам** – "быць выключаным з якой-небудзь справы (Праз год Міхал апынуўся за бортам: фірма паспяхова працягвала працаваць без яго); **апынуцца на розных берагах** – "разысціся ў поглядах, перакананнях з кім-небудзь" (Праз нейкі час нядаўнія сябры апынуліся на розных берагах: Лявон застаўся на ранейшай працы, а Мікола заснаваў сваю справу і не падтрымліваў з учорашнім прыяцелем ніякіх сувязяў); **апынуцца за дзясятаю гарою** – "быць у вельмі далёкім месцы" (У хуткім часе ўся сям'я апынулася за дзясятаю гарою – ажно ў Амерыцы).

Як бачым, абодва дзеясловы – **аказацца** і **апынуцца** – цалкам беларускія. Але пры блізкасці іх значэння яны не з'яўляюцца абсалютна сінанімічнымі, узаемазамяняльнымі.

Адказваючы на пытанне нашай чытачкі спадарыні Ганны, заўважым, што яе знаёмая настаўніца мела рацыю (як і належыць настаўніцы!), бо канструкцыі "усё гэта аказалася падманам, няпраўдай... Як аказалася, хлопец нічога пра гэта не ведаў..." цалкам адпавядаюць літаратурным нормам, яны правільныя.

Спадзяёмся, што прапанаваны матэрыял дапаможа пазбегнуць памылак у далейшым пры выкарыстанні двух названых дастаткова частотных дзеясловаў. А гэта дазволіць аматарам беларускага слова не апынуцца ў нейкай няёмкай сітуацыі.

# Біскуп Алег Буткевіч асвяціў фігуру святога Міхала Арханёла ў Лепелі

**2 кастрычніка для касцёла святога Казіміра ў Лепелі стаў асаблівым днём. Пасля ўрачыстай нядзельнай Імшы адбылося асвячэнне фігуры святога Арханёла Міхала, усталяванай на тэрыторыі храма.**

■ **Наталля Храпавіцкая**





Пару тыдняў таму назад многія лепяльчане заўважылі, што каля велічнага беласнежнага будынка з'явілася прыгожая статуя. Яна, трэба сказаць, выклікала вялікае захапленне і цікавасць не толькі ў прыхаджан касцёла, але і іншых жыхароў раёна, а таксама ў турыстаў.

У гэты дзень святую Імшу распачаў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч, які звярнуўся да прысутных з прывітальным словам і адзначыў важнасць такога кшталту падзеі для мясцовых парафіянаў і ўсяго Каталіцкага Касцёла ў Беларусі. Разам з біскупам урачыстую святую Імшу цэлебраваў ксёндз-пробашч Уладзімір Заянчкоўскі.

Падчас службы святары нагадалі, што 29 верасня каталікі адзначаюць дзень памяці святых Арханёлаў Міхала, Габрыэля і Рафаела. Арханёл Міхал – апякун Касцёла ў Беларусі, мае шмат розных тытулаў: Князь Анёлаў, Анёл Справядлівасці, Ахоўнік Раю, Абаронца Хрыстовага Касцёла, Князь Душаў, Пасланнік Бога, які перадае людзям Божыя наказы.

Амаль усе найважнейшыя падзеі біблейскай гісторыі адбываюцца пры ўдзеле Арханёла Міхала. Яго шануюць як свайго нябеснага заступніка хворыя, што паміраюць, а таксама медыкі і кіроўцы "хуткай дапамогі". Ён таксама з'яўляецца заступнікам маракоў і вайскоўцаў.

Для нас вобраз гэтага святога ў першую чаргу з'яўляецца сімвалам хрысціянскага аптымізму. Ён паказвае, што зло зусім не ўсемагутнае і не вечнае. Яму можна і трэба супрацьстаяць, і ў рэшце дабро пераможа...

Таксама была акцэнтавана ўвага, што нядзельная Эўхарыстыя з'яўляецца найбольшай падзякай чалавека Богу. Таму ў час Імшы супольна неабходна дзякаваць за магчымасць працаваць і адпачываць, прымяняць свае здольнасці на карысць сабе, сваім блізкім і Айчыне, за шчодрасць і любоў. Адначасова можна папрасіць далейшых Божых ласкаў, так неабходных для вернікаў.

– Мы павінны быць міласэрнымі і добрымі, праяўляць чуласць да іншых. Толькі праз хрысціянскія каштоўнасці мы можам змяніць сваё жыццё ў лепшы бок, – адзначыў біскуп Алег.

На заканчэнне Імшы іерарх выказаў падзяку ксяндзу Уладзіміру і ўсім, хто прычыніўся да стварэння і ўсталявання фігуры Арханёла Міхала.

– Няхай святы Арханёл апякуецца не толькі парафіянамі касцёла, а і ўсімі жыхарамі раёна, гэтым прыгожым блакітным краем – Лепельшчынай, – рэзюмаваў біскуп Алег і пажадаў усім вернікам шчодрых ласкаў Езуса Міласэрнага. Вернікі ў сваю чаргу падзякавалі паважанаму госцю: "Заўсёды прыезд біскупа да нас з'яўляецца вельмі радаснай падзеяй, бо гэта азначае еднасць Касцёла. Аднак сёння асаблівы дзень, сапраўднае шчасце для нашай вялікай парафіяльнай сям'і – адбыліся супольная малітва і абрад асвячэння фігуры Арханёла Міхала", – ад імя вернікаў сказала Таісія Маркевіч і ўручыла кветкі пастыру.

Касцёл святога Казіміра – адзін з найстарэйшых каталіцкіх храмаў у Беларусі, пабудаваны ў 1876 годзе. Гляджу на яго беласнежныя сцены, высокія магутныя вежы і не магу ў гэта паверыць. Помнік архітэктуры выглядае як новы.

Стараннямі ксяндза Уладзіміра Заянчкоўскага, які за пяць гадоў служэння ў Лепелі здолеў аб'яднаць вакол сябе неабыякавых людзей, тэрыторыя вакол касцёла акультурана да непазнавальнасці. Толькі за апошнія пару гадоў тут з'явілася шмат прыгожых экзатычных раслін – кустоў, дрэў, кветак! Пакуль яны яшчэ маладыя, магчыма, не зусім заўважныя для большасці лепяльчан. Аднак праз некалькі гадоў, калі забуяюць рознакаляровымі кветкамі, турысты будуць цікавіцца не толькі гісторыяй храма, а і парадамі пробашча Уладзіміра па вырошчванні раслін.

– Важна, каб людзі не хаваліся за высокімі непраглядными платамі, а будавалі масты паміж сэрцамі, – кажа ксёндз-пробашч Уладзімір. – Храм знаходзіцца ў адным з найпрыгажэйшых месцаў горада, тут заўсёды ціха, можна спакойна паразважаць. Хочацца, каб людзі, якія зазірнулі сюды ўпершыню, пажадалі прыйсці зноў.

# Інаўгурацыйнае свята для першакурснікаў Вышэйшай духоўнай семінарыі: мы чакаем і ўскладаем на вас надзею!

**Інаўгурацыйная ўрачыстасць новага 2022-2023 навучальнага года на 1 курсе Вышэйшых духоўных семінарый у Гродне і Пінску адбылася 8 кастрычніка ў Мінску. З нагоды ўрачыстасці Эўхарыстыю цэлебраваў арцыбіскуп на пенсіі Тадэвуш Кандрусевіч. Сярод прысутных быў таксама Генеральны вікарый Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі біскуп Юрый Касабуцкі, таксама святары, якія будуць выкладаць на падрыхтоўчым курсе, свецкія выкладчыкі ды блізкія і родныя семінарыстаў.**

■ **Аксана Ючкавіч**, *тэкст;* **Уладзіслаў Прыгун**, *фота*



Удзельнікі распачалі сустрэчу супольным спевам-малітваю за Беларусь.

Пасля ксёндз Павел Эйсмант, куратар першага курса, падвёў вынікі мінулага навучальнага года, дзе падкрэсліў шмат пунктаў не толькі адукацыйнага характару, але і выхаваўчага, і культурнага, і асабліва духоўнага.

Інаўгурацыйную лекцыю на тэму "Святарская культура" прачытаў ксёндз Віталь Дабраловіч, які з гэтага года пачынае выкладанне на падрыхтоўчым курсе.

Сваё слова на пачатак навучальнага года меў біскуп Юрый Касабуцкі, які перадаў прывітальнае слова ад Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага біскупа Юзафа Станеўскага, а таксама зазначыў, што важна, "пакінуўшы свае родныя сем'і, зараз пачаць будаваць новую, семінарыйную сям'ю і рабіць наступныя плённыя крокі разам з духоўным айцом, з куратарам і выкладчыкамі".

"Мы вас чакаем і пакладаем на вас надзею! Няхай шчасціць!" – такімі словамі біскуп Юрый завяршыў сваё слова.

Біскуп жа Тадэвуш Кандрусевіч падчас сваёй прамовы прыгадаў адкрыццё першага навучальнага семінарыйнага года ў Гродне, якое адбылося ў 1990 годзе, адкрыццё семінарыі ў Маскве ў 1993 годзе, потым у 1995 годзе – у Пецярбургу. Іерарх адзначыў, што варта памятаць пра тое, што святар – гэта найперш той, хто вядзе чалавека да Бога, а потым ужо ідуць іншыя абавязкі, якіх у святара шмат.

"Вы – новая кроў, каб ажывіць Касцёл у Беларусі!", – падкрэсліў арцыбіскуп, пры гэтым з падзякаю прыгадаўшы ўсіх тых святароў, якія ў канцы 80-ых і пачатку 90-ых паклалі сваё жыццё на адраджэнне беларускага касцёла, прыехаўшы з іншых краін на дапамогу.

Таксама арцыбіскуп Тадэвуш падкрэсліў, што варта далей будаваць Касцёл, які будзе своечасова адказваць на выклікі часу. Касцёл, што гэты час разумее і чуйны да яго патрэбаў.

Сёлета на першы падрыхтоўчы курс прыйшло шасцёра кандыдатаў. Кандыдаты з Гродзенскай дыяцэзіі: Рычард Адамовіч (парафія святога Арханёла Міхала, Навагрудак), Марк Валасевіч (парафія Маці Божай Ружанцовай, Радунь).

З Віцебскай дыяцэзіі: Станіслаў Бервячонак (парафія Святой Тройцы, Глыбокае), Уладзіслаў Прыгун (парафія Спаслання Святога Духа, Мікалаева).

Таксама быў залічаны ў шэрагі студэнтаў кандыдат з Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі – Леў Ляховіч (парафія Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Станіслава, Магілёў).

Падчас гаміліі арцыбіскуп Кандрусевіч зазначыў, што ў святара ёсць тры важныя задачы: абвяшчаць Божае слова, асвячаць людзей і накіроўваць людзей у служэнні Богу і іншым людзям.

Адзначыў іерарх таксама, што важна памятаць: святар – гэта і грэшны чалавек, але адначасова і чалавек, які мае Божую моц і выключнае пакліканне, каб дзейнічаць ад імя і моцаю Езуса Хрыста.

Варта памятаць, як дадаў біскуп, што людзі заўсёды жадалі і жадаюць бачыць у святару таксама і чалавека вельмі адукаванага, чалавека, які разважае на іх мове і разумее рэаліі сённяшняга дня.

"Будзьце тымі, хто будзе "асучасніваць" наш Касцёл, дзякуйце за пакліканне і прасіце ў Бога дапамогі вытрымаць", – такімі былі словы-наказы ад арцыбіскупа Тадэвуша на распачаты шлях семінарыйнага жыцця новых кандыдатаў.

# У Магілёве адбыўся VI Ружанцовы кангрэс

**1 кастрычніка ў катэдры Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Станіслава ў Магілёве прайшоў Шосты ружанцовы кангрэс. Сёлетняя сустрэча праходзіла пад дэвізам "Абвяшчэнне Божага Валадарства і заклік да навяртання". Мэтай кангрэса, як заўсёды, было паглыбленне духоўнай і інтэлектуальнай фармацыі вернікаў, каторыя моляцца на ружанцы і хочуць адкрываць тэалагічныя глыбіні, змешчаныя ў яго таямніцах.**

■ **Лаліта Арлоўская**, *тэкст*; **Рыта Ляховіч**, *фота*




На мерапрыемства з'ехаліся вернікі з усіх куткоў Беларусі і з-за мяжы. Сёлетні кангрэс узначаліў мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Юзаф Станеўскі. Таксама прысутнічаў дапаможны біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB.

Малітвай да Маці Божай мітрапаліт Юзаф Станеўскі распачаў кангрэс. Пасля ўдзельнікаў прывіталі біскупы і арганізатар мерапрыемства – айцец Раман Шульц OP.

Першая дакладчыца – сястра Ганна Судуйка CHR – прадставіла кнігу "Святая Ядвіга, каралева: заклік да навяртання і абвяшчэнне Божага Валадарства". У сваім выступленні сястра Ганна адзначыла жыццё св. Ядвігі, якая сваёй галоўнай мэтай абрала распаўсюджванне Евангелля, але распаўсюджванне не прапагандай, а ўласным прыкладам. Св. Ядвіга ўмела добра спалучаць малітоўна-сузіральнае жыццё з дзейсным жыццём, таму яна з'яўляецца добрым прыкладам для сучаснага хрысціяніна.

Другі даклад быў прадстаўлены сястрой Дар'яй Еўтухоўскай FMA пад назвай "Святы Ян Павел II: заклік да дзяцей, моладзі і жанчын", у якім яна звярнула ўвагу слухачоў на асноўныя думкі святога Папы ў яго пасланнях да дадзеных вышэй груп.

Пасля гэтага адбылося выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманта, падчас якога ўдзельнікі маліліся на ружанцы. Таксама на працягу ўсяго дня была магчымасць ушанавання рэліквій святой Ядвігі.

Трэці дакладчык – спадар Дзяніс Серадзін – прадставіў асноўныя пункты пасланняў святога Яна Паўла II да сем'яў, пажылых людзей і мастакоў. Спадар Дзяніс таксама падзяліўся ўласным вопытам шматдзетнага бацькі, што было вельмі карысна. Ён распавёў гісторыю сустрэчы сваёй жонкі са святым Папам.

Апошняй свой даклад прадставіла спадарыня Наталля Вашчэнка. Мэтай выступу было заахвоціць слухачоў азнаёміцца з творам айца Яцака Салія "У пошуках праўдзівага шляху". У гэтай кнізе айцец Салій адказвае на цікавыя і найбольш распаўсюджаныя пытанні і дае зразумелыя парады наконт штодзённага жыцця.

Пасля заканчэння дакладаў быў перапынак, падчас якога ўдзельнікі маглі адпачыць і абмяняцца ўражаннмі ад кангрэсу. Спадарыня Станіслава з Мінска, якая першы раз удзельнічала ў кангрэсе, падзялілася з намі сваімі думкамі: "Тут я адказала для сябе на многія пытанні, зразумела некаторыя памылкі ў сваім жыцці. Асабліва адклікаецца ўва мне і сёлетняя тэма – "Абвяшчэнне Божага Валадарства і заклік да навяртання", бо менавіта гэтай таямніцай малюся на ўсебеларускім ружанцовым коле. Таксама блізкая мне і святая Ядвіга, таму што з'яўляецца нябеснай апякункай маёй сястры Ядвігі, у якой, на жаль, з самага дзяцінства сур'ёзныя праблемы са здароўем, таму часта звяртаюся ў малітвах да гэтай святой".

Таксама ў удзельнікаў кангрэса была магчымасць падзяліцца ўласнымі сведчаннямі пра плён ружанцовай малітвы. Вернікі актыўна ўзялі ўдзел у гэтай частцы форуму.

Кульмінацыйным момантам кангрэса стала святая Імша, якую цэлебраваў Мітрапаліт Юзаф Станеўскі разам з прысутнымі святарамі.

## "Паўстань і сяцві": беларусы на IV Кангрэсе маладых кансэкраваных асобаў

**З 22 па 25 верасня ў польскім горадзе Ліхень адбываўся IV Кангрэс маладых кансэкраваных пад дэвізам "Паўстань і сяцві". На гэтым кангрэсе ўдзельнічалі таксама кансэкраваныя асобы з Беларусі.**

■ **с. Фаўстына Адамовіч MSF**

Падчас Кангрэсу мы мелі магчымасць маліцца разам прыгожым спевам Літургіі Гадзінаў. Кожны дзень мы сустракаліся на канферэнцыях, якія былі вельмі жыццёвымі, дапамагалі нам нанова адкрыць скарб уласнай кансэкрацыі, паглядзець інакш на крызісы нашага манаскага жыцця і на нашыя супольнасці. Тэмы канферэнцый закранаалі і нашую тоеснасць, і тое, чаму мы хочам застацца, і этапы манаскага сталення.

Каштоўным досведам сталі сустрэчы ў групах, дзе кансэкраваныя асобы з рознымі харызмамі, з розным светапоглядам і рознакаляровымі габітамі дзяліліся сваім вопытам праходжання праз крызісы, сваім вобразам Бога і сваім перажываннем розных формаў малітвы. Неверагодным было тое, што кожны з нас у такіх розных манаскіх супольнасцях перажывае падобныя цяжкасці, мае падобныя памкненні, падобна прагне пазнаваць і любіць Бога. Гэты досвед нас з'яднаў і дапамог нанова адкрыць любоў да свайго манаскага інстытута.

Вельмі кранальным атрымаўся вечар сведчанняў, дзе мы змаглі пачуць адказы на пытанні асобаў з розных формаў кансэкраванага жыцця. Сваім жыццём і цудамі Бога ў ім дзяліліся з намі с. Уладыслава Красічынска CSSJ з апостальскай кангрэгацыі, с. Мар'я Лепруст OVM з кляўзуровай кангрэгацыі, а таксама Магдалена Мыяк – свецкая асоба кансэкраваная.

Вечар суботы быў напоўнены радасцю сумеснага прабывання. Мы танчылі разам, гулялі ў настолкі, размаўлялі і проста добра праводзілі супольна час.

На Кангрэсе адбывалася ўсяночная Адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту. У капліцы, дзе яна праходзіла, было выразна бачна, што маладыя кансэкраваныя прагнуць Бога і прагнуць быць у Яго прысутнасці. Капліца заўсёды была запоўненая.

Гэты прыгожы і карысны час завяршыла святая Імша, падчас якой адбыўся акт ахвяравання нашых манаскіх супольнасцяў Маці Божай.

Няхай будзе праслаўлены Бог у гэтым часе і няхай гэты час прынясе плён нашай беларускай зямлі. Прыводжу ніжэй сведчанні беларусак з розных манаскіх кангрэгацый, з якімі разам перажывала гэты Кангрэс.

**Марыя Мінютка USJK:** "У сучасным свеце, які перапоўнены неспакоем і ў якім так часта нестае надзеі, кожны чалавек патрабуе ўзмацнення. Для мяне час Кангрэсу маладых кансэкраваных быў момантам дзялення верай. Гэтыя некалькі дзён абудзілі ў маім сэрцы ўдзячнасць за тое, што зерне Божага Слова не перастае прарастаць і прыносіць плён у жыцці хрысціянаў. Вялікая колькасць маладых і захопленых Богам людзей мела магчымасць проста цешыцца з прысутнасці сярод тых, хто знаходзіцца на падобным этапе свайго манаскага шляху. Я лічу, што такія досведы вельмі патрэбныя, каб, вярнуўшыся ў месцы сваёй штодзённасці, служыць Богу і людзям з яшчэ большым запалам і свядомасцю, што мы не адны. Ёсць шмат сэрцаў, якія шукаюць жывога Бога, а гэта значыць, што Ён жыве сярод нас..."

**Сястра Настасся Мішкура MChR:** "Вельмі цешуся і ўдзячная Пану Богу, што магла ўдзельнічаць у Кангрэсе маладых асобаў кансэкраваных. Вярталася дадому з думкай, што даволі шмат нас, маладых кансэкраваных, нягледзячы на тое, што часам разносяцца пагалоскі пра памяншэнне пакліканняў альбо старэнне манаскіх супольнасцяў. Гэтая сустрэча паказала мне, што ў сучасным Касцёле вельмі моцна жыве малады дух. Ёсць асобы, якія згаджаюцца радыкальна жыць для Езуса Хрыста і будаваць на зямлі Яго Валадарства.

Пасля кожнай сустрэчы застаешся чымсьці ўзбагачаны, не выключэннем стаў і Кангрэс у Ліхеню. На працягу чатырох дзён я зразумела, што


Супольнае фота ўсіх беларусаў

павінна быць адкрытай на разнастайнасць у Касцёле, цешыцца і дзякаваць Богу за ўнікальнасць кожнай манаскай супольнасці. Таксама я мела магчымасць узбагаціцца спевам у хоры, які стварыўся падчас Кангрэсу. Гэтая справа стала доказам таго, што Дух Святы актыўна дзейнічае ў Касцёле".

**Сястра Стэфанія Гурына OP:** "Кангрэс быў неверагодным вопытам еднасці ў разнастайнасці. Розныя харызмы, розныя колеры габітаў, розныя гісторыі – адзін дух, адно полымя, адна Любоў. Евангелле паводле Марка гаворыць, што Езус паклікаў Апосталаў, "каб яны былі з Ім"( Мк 3,14)... І як добра, што і нам хочацца быць разам! Спадзяюся, што, узмоцненыя Божай радасцю, мы пойдзем дзяліцца ёю з іншымі. Радасць амаладжвае!"

**Сестра Мириам Чугункова MSF:** "Благодарна Богу за то, что имела возможность поехать на Конгресс молодых монашествующих, который проходил в Лихеню в Польше. Это было прекрасное время, проведённое с Богом и другими монашествующими из разных монашеских общин. Для меня больше всего было ценным это свидетельство других монахинь и монахов. Слыша разные истории жизни и как Бог каждого из нас находит и ведёт, просто восхищаешься красотой, любовью и милосердием Бога. И хоть сам Конгресс уже закончился, но радость общения, улыбки, открытость сердец, новые знакомства, общая молитва, танцы и содержание конференций останутся в сердце. Пусть эта искорка радости, любви Божией, поможет нам "встать и сиять".

# Перэгрынацыя Цудоўнага медаліка ў Віцебскай дыяцэзіі

**У Беларусі з 4 верасня распачалася перэгрынацыя Цудоўнага медаліка ў межах дзевяцігадовай навэнны, прысвечанай падрыхтоўцы да 200-годдзя аб'яўлення Найсвяцейшай Панны Марыі святой Кацярыне Лябурэ.**

■ Кс. Віктар Мiсевіч

Сёстры з Кангрэгацыі Дачок Міласэрнасці святога Вінцэнта дэ Поля (шарыткі) на працягу дзевяці гадоў збіраюцца наведаць усе парафіі Беларусі і пазнаёміць вернікаў з пасланнем Беззаганнай Панны Марыі, якая аб'явіла Цудоўны медалік.

Нагадваючы вернікам пра магутную Заступніцу ў Небе, а таксама дзелячыся сведчаннямі пра шматлікія цуды, якія здзейсніліся праз заступніцтва Беззаганнай Марыі, удзельнікі гэтай малітоўнай акцыі спадзяюцца абудзіць у сэрцах людзей веру і надзею на тое, што Марыя ніколі не пакідае нас на шляху да збаўлення, але падтрымлівае сваёй апекай і дапамагае прайсці праз усе выпрабаванні ў нашым жыцці.

Вернікі яшчэ больш даведаюцца пра пасланне Дзевы Марыі сястры Кацярыне Лябурэ ў 1830 годзе, а таксама атрымаюць Цудоўныя медалікі – гэты "дар Неба" для сябе, сваіх блізкіх і знаёмых. Варта адзначыць, што тэкст малітвы на медаліках выгравіраваны на беларускай мове.



Сёстры-шарыткі заахвочваюць усіх людзей добрай волі далучыцца да гэтай малітвы, каб выпрасіць ласку навяртання да Бога ўсіх закаранелых грэшнікаў праз заступніцтва Марыі Беззаганнай ад Цудоўнага медаліка. Яны таксама просяць аб Божай моцы і апецы Багародзіцы для тых, хто распаўсюджвае пасланне Беззаганнай Марыі праз Цудоўны медалік.

У Віцебскай дыяцэзіі сёстры-шарыткі ў лістападзе наведаюць наступныя парафіі:

- **13 лістапада** – парафію Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў Верхнядзвінску;
- **27 лістапада** – парафію святой Барбары ў Віцебску.

Заахвочваем дарагіх вернікаў у гэтыя дні асабліва наведаць нядзельныя набажэнствы ў касцёлах названых парафій, каб даведацца пра цудоўную моц медаліка Марыі Беззаганнай.

# В Красноярске появилась статуя Христа-Искупителя

**Рядом с "Красивым берегом" возле храма Новомучеников и Исповедников Российских появилась скульптура Христа-Искупителя по образцу статуи из Рио-де-Жанейро.**



Ее автор – Виталий Ян-Вин-Тин. Он подарил статую Красноярской епархии, сообщает "Красноярск-онлайн".

О том, что статуя появилась в Академгородке, стало известно из соцсетей. Красноярцы уже делятся фотографиями и говорят, что статуя постепенно становится местной достопримечательностью.

В высоту она метров 10–15 и "выглядит внушительно". Прямо сейчас на месте, где установили статую, рабочие завершают приводить ее в порядок. По ночам ее подсвечивают.

## На лістапад прыпадаюць імяніны, дні нараджэння і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**5 лістапада** – дзень нараджэння адзначае **кс. Юрый Барок**, імяніны адзначае **кс. Славамір Самковіч** *(Пагошча)*;

**6 лістапада** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Алег Півавар** *(Валкалата)*, **кс. Андрэй Бочар MS** *(Далёкія)*;

**11 лістапада** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Сяргей Сурыновіч** *(Друя)*;

**12 лістапада** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Валерый Орсік** *(Дзеркаўшчына)*, **кс. Алег Півавар** *(Валкалата)*, **кс. Славамір Самковіч** *(Пагошча)*;

**13 лістапада** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Чэслаў Куцмеж SCJ** *(Паставы)*, **кс. Станіслаў Мжыглуд SDS** *(Браслаў)*;

**14 лістапада** – дзень нараджэння адзначае **а. Тадэвуш Кавальскі OFMCap** *(Докшыцы, Бягомль)*;

**19 лістапада** – дзень нараджэння адзначае **кс. Генадзій Ляўкоў**;

**20 лістапада** – дзень біскупскай сакры адзачае **біскуп на пенсіі Уладзіслаў Блін**;

**23 лістапада** – імяніны адзначае **а. Кляменцій Верт SJ** *(Віцебск)*;

**30 лістапада** – імяніны адзначаюць **кс. канонік Андрэй Аніскевіч**, Дырэктар Нацыянальнага Карытас, **кс. Андрэй Бочар MS** *(Далёкія)*, **кс. Андрэй Кулік** *(Мёры)*, **а. Анджэй Юхневіч OMI** *(Шуміліна)*, **кс. Яўген Міхайлаў** *(Лучай)*; дзень нараджэння адзначае **а. Аляксей Варанко** *(Віцебск)*;

*Падрыхтаваў*
***кс. кан. Віктар Місевіч***



# Тэст на "Е" і "Ё"

**Паважаныя чытачы! У сённяшнім тэсце "Каталіцкага Весніка" прапануем вам самастойна напісаць пад кожным пытаннем правільны адказ, які пачынаецца на літары "Е" або "Ё".**

**1 Куды прыйшоў Езус, каб адзначыць з вучнямі свята Пасхі? Назва горада...**



Адказ:............................

**2 Адзін з найвялікшых біблейскіх пракокаў, які нагадваў ізраільцянам аб тым, што Пан Бог – адзіны, і няма іншых багоў. Ён пачаў сваю дзейнасць, калі яму было каля 15 гадоў, і працягваў яе на працягу 45 гадоў у смутны, цяжкі час, калі Юдэйскае царства прыходзіла ў заняпад.**



Адказ:............................

**3 Назва гэтага палесцінскага горада ўзгадваецца ў Кнізе Езуса Навіна ў 6-ым раздзеле.**



Адказ:............................

**4 Таварыства Езуса было заснавана святым Ігнацыем Лаёлам. Якую назву яшчэ мае гэта манаская супольнасць?**



Адказ:............................

**5 У перакладзе з грэцкай мовы гэтае слова абазначае "Добрая вестка"**



Адказ:............................

**6 21 мая Папа Францішак прызначыў новым Апостальскім нунцыем у Беларусі арцыбіскупа Антэ...**



Адказ:............................

**7 Замест шматкроп'я ўстаўце патрэбнае слова. Экуменічная малітва – гэта малітва аб ... хрысціян.**



Адказ:............................

**8 Святыя Мацвей, Марк, Лука і Ян гэта...**



Адказ:............................

**9 У 30-ым раздзеле кнігі прарока Эзэхіэля знайдзіце прапушчаныя словы і ўстаўце замест шматкроп'я...**

**"І пойдзе меч на ..., і жудасць пашырыцца па Эфіопіі, калі ў ... будуць падаць пабітыя, калі возьмуць багацце яго, і асновы яго будуць разбураны".**



Адказ:............................

**10 Назва кнігі Старога Запавету, у якой расказваецца пра цярпенні і шматпакутнасць чалавека, які, нягледзячы на ўсе выпрабаванні, усё роўна праслаўляе Бога. Кніга ...**



Адказ:............................

*Падрыхтавала*
***Ірына Радзевіч***

**Правільныя адказы на віктарыну на стар. 16**

# Рэліквіі бласлаўлёных мучаніц з Навагрудка ўнесены ў касцёл у Глыбокім



**16 кастрычніка 2022 года ў парафіяльны касцёл Святой Тройцы былі ўнесены рэліквіі благаслаўлёнай сястры Марыі Стэлы і дзесяці яе паплечніц назарэтанак — мучаніц з Навагрудка, якія загінулі ад рук гітлераўцаў.**

■ Марына Сінкевіч

Рэліквіі расстраляных нацыстамі сясцёр, якія былі абвешчаны благаслаўлёнымі, ад імя Кангрэгацыя Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта перадала Глыбоцкай парафіі сястра Лаўра Шукеловіч CSFN.

Усіх прысутных прывітаў пробашч парафіі ксёндз Мікалай Ціхановіч, ініцыятар таго, каб у парафіі з'явіліся рэліквіі мучаніц. У Глыбокім таксама ёсць некалькі сем'яў, якія належаць да Асацыяцыі Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта і стараюцца жыць назарэтанскай духоўнасцю.



Сёстры назарэтанкі, якія працягваюць на беларускай зямлі высакародную справу благаслаўлёных манахінь, расказалі пра жыццё і пакутніцкі шлях мучаніц, якія 1 жніўня 1943 года былі расстраляныя ў Батароўскім лесе каля Навагрудка. Назарэтанкі ахвяравалі сваё жыццё за 120 чалавек, арыштаваных і асуджаных на смерць, сярод якіх быў святар і бацькі сем'яў. 5 сакавіка 2000 года назарэтанкі былі беатыфікаваны Папам Янам Паўлам II на плошчы св. Пятра ў Рыме. Рэліквіі благаслаўлёных сясцёр спачываюць у капліцы фарнага касцёла Перамянення Пана ў Навагрудку. Цяпер частку гэтых рэліквій можна ўшанаваць таксама ў касцёле ў Глыбокім, пакуль адзіным у Віцебскай дыяцэзіі.

Ксёндз Мікалай на заканчэнне Імшы падзякаваў усім за дар супольнай малітвы і падкрэсліў, што ў гэты дзень парафіяльная супольнасць у Глыбокім атрымала новых апекуноў – благаслаўлёных сясцёр назарэтанак з Навагрудка, і асабліва заклікаў маліцца за сем'і праз іх заступніцтва.

На заканчэнне ўрачыстасці рэліквіі былі перанесены ў капліцу Маці Божай Падхорнай, дзе таксама быў асвечаны абраз, які выканала Ядвіга Сенько з Маладзечна.









# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Алена Сасімовіч** *(Глыбокае)*, **Жана Юрык** *(Глыбокае)*, **Соф'я Ермаковіч** *(Глыбокае)*, **Эма Роўда** *(Новалукомль)*, **Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **Гертруда Блышко** *(Глыбокае)*, **Ядвіга Цорах** *(Мілты)*, **Ядвіга Жолнер** *(Муцеўшчына)*, **Яніна Рагіня** *(Муцеўшчына)*, **Часлава Паўлючонак** *(Студзяніца)*, **Міхаіл Дуброўскі** *(Нагаўкі)*, **Станіслаў Вышадка** *(Завараты)*, **Сцепаніда Лупач** *(Завараты)*, **Таццяна Малецкая** *(Мёры)*, **Аляксандр Альхімовіч** *(Мёры)*, **Яніна Маркоўская** *(Мінск)*, **Тэрэза Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Ада Шумская** *(Наваполацк)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Марыя Вярцінская** *(Вярцінскія)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Марыя Рачыцкая** *(Якубова)*, **Алена Канчанін** *(Нарач)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Тэрэза Балтромун** *(Бастуны)*, **Ніна Марунько** *(Новалукомль)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі)*, **Святлана Урбановіч** *(Захарнічы)*, **Марыя Вашкевіч** *(Лапуны)*, **Ядвіга Мядзвецкая** *(Сталіца)*, **Тэрэза Цвіклінская** *(Шунеўцы)*, **Антон Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Тэрэза Рулевіч** *(Браслаў)*, **Ніна Голенькая** *(Віцебск)*, **Тэрэза Каптур** *(Пагошча)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Ніна Марунько** *(Новалукомль)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Кірылава В.І.** *(Ёды)*, **Яніна Парфяновіч** *(Пялікі)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Галіна Ціунэль** *(Пагошча)*, **Даната Рудак** *(Захарнічы)*, **Тэрэза Смулько** *(Зорка)*, **Ядвіга Трайко** *(Карасіна)*, **Яніна Лубінская** *(Шэметава)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Марунько В.В.** *(Новалукомль)*, **Станіслава Пятліцкая** *(Баранавічы)*, **Вольга Цімафеева** *(Янкавічы)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Галіна Шкецік** *(Смулькова)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Елізавета Лебядзева** *(Бягомль)*, **Антон Петухоўскі** *(Бальшавік)*, **Марына Катовіч** *(Зорка)*, **Галіна Сіманенак** *(Паставы)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Ганна Швед** *(Людвінова)*, **Ганна Кірплюк** *(Варапаева)*, **Галіна Русецкая** *(Нясвіж)*, **Валянцін Альхімёнак** *(Докшыцы)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Марыя Лубнеўская** *(Мядзел)*, **Соф'я Іжык** *(Ашмяны)*, **Марыя Новік** *(Зорка)*, **Францішка Мурашка** *(Даўгінава)*, **Рэгіна Ціхая** *(Камарова)*, **Валькевіч Галіна** *(Глыбокае)*, **Тарасёнак Ала** *(Глыбокае)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя***

# История выздоровления от алкоголизма

**Вырос я в деревне. Старший сын в семье, нас у родителей трое. Семья благополучная. Отец – пьющий человек, но, как говорится, по делу и зарплату не пропивал...**

Алкоголь на постоянной основе вошел в мою жизнь в 17 лет, и с тех пор он был частью мой жизни. В радости, горести всегда надо было отметить событие. Алкоголь мог помочь в установлении взаимоотношений, поддержать дружеский разговор, украсить праздник. В моем окружении употребляли практически все. Тех, кто не пил совсем, я даже не вспомню...

Такие симптомы, как похмелье, потеря памяти с определенного периода для меня стали нормой. И я думал, что так должно быть. А как еще может быть, если начинал с одних напитков, а заканчивал другими? Если "лампочка загоралась", а "загоралась" она часто, и если мне не надо было на следующий день идти на работу или садиться за руль автомобиля, то я отдавался пьянству...

Женился я относительно рано, в 19 лет. У нас родился ребенок. Конфликты в семьи были в основном из-за того, что я часто после употребления мог вести себя не совсем красиво, мягко говоря. Можно сказать, что алкоголь обнажал во мне такие качества, как эгоистичность, высокомерие и массу еще качеств, которыми не хвалятся. И я мог быть агрессивным, и агрессия, конечно, обрушивалась на моих самых близких людей, на мою семью: жену и детей...

Не знаю, сколько времени мне надо, чтобы восполнить ущерб, который я нанес близким. Для меня это поменять свое поведение по отношению к жене и детям, перестать строить из себя царя и стать любящим мужем жене, отцом и другом детям. Это моя цель, и программа 12 шагов АА помогает мне в этом.

В употреблении я получил два сотрясения головного мозга. Первый раз меня сбила машина, и через пару месяцев меня сильно избили. Я был пьян, когда меня сбила машина, от госпитализации я отказался и пошел дальше употреблять. Что я вытворял! Это было пьяное безумие, "крышу снесло" напрочь... Потом мне сказали, что я мог стать просто дурачком, так как употребление алкоголя при сотрясении головного мозга категорически противопоказано. Последствия той аварии отразились на моем психоэмоциональном здоровье. И при употреблении алкоголя эти последствия усугублялись...

В июне 2013 года я решил завязать с употреблением алкоголя на три года, и я не пил 3,5 года. Все было прекрасно. Я полностью все контролировал и ...решил снова начать употреблять алкоголь и ни в чем себе не отказывать.

Новый 2017 год я прекрасно встретил. Я выпил в меру и все было хорошо. Последующие два года я пил, как раньше, периодически – постоянно. На почве употребления алкоголя у меня постепенно начали рушиться отношения в семье. Пьяные ссоры перерастали в скандалы. Несколько раз вообще хотел уходить из семьи: мне казалось, что она меня не понимает и мешает мне жить. Потом на меня наваливалась депрессия, и я себя чувствовал уже полным ничтожеством, которое ничего не добилось в жизни. Меня не удовлетворяло мое финансовое состояние, и это было поводом для уныния.



Я постепенно стал подозревать, что со мной что-то не так. Мое психоэмоциональное состояние меня сильно беспокоило. Я стал понимать, что мне пить нельзя, так как это усугубляло мое психическое состояние. Если честно, я боялся идти к психотерапевтам, так как думал, что меня просто поставят на учет и это может мне навредить на работе. На платных психологов у меня не было средств.

Я искал, советовался, и одна моя близкая знакомая, пообщавшись со мной, рекомендовала пройти мне 12-шаговую программу. Я вообще на тот момент не представлял, что это такое, но так как мне уже терять было нечего, я вписался в платную малую группу, которую вела психотерапевт, выторговав себе скидку. В этой малой группе была взята за основу выздоровления 12-шаговая программа параллельного сообщества. Чуть позже, при личной консультации этот психотерапевт рекомендовала мне обратиться за помощью в сообщество Анонимных Алкоголиков.

Я послушал ее совета и в марте 2019 г пришел на первое свое собрание АА, где услышал Весть о выздоровлении. Рассказы людей на этом собрании во мне откликнулись, и уже на первом собрании решил, что мне необходимо пройти эти 12 шагов с помощью Спонсора. Уже через несколько дней Спонсор читал мне книгу "Анонимные Алкоголики".

На сегодня у меня абсолютно отсутствует тяга к употреблению алкоголя. Для меня АА – это то место, где я выздоравливаю духовно. Через программу 12 шагов, описанную в Большой синей книге, я выстраиваю взаимоотношения со своей Высшей Силой, как я ее понимаю. И эти взаимоотношения мне нравятся. Мне нравится, что у меня нет паники от мыслей о будущем. Душевное спокойствие, к которому я стремлюсь, все чаще и дольше посещает меня, и это меня радует. Наладились взаимоотношения в семье. Шаги и Традиции АА дали мне инструменты и инструкции, применяя которые я решаю задачи, которые возникают в моей жизни. Эти инструменты мне дали абсолютно безвозмездно, и я в свою очередь готов ими поделиться с любым человеком, который обратится ко мне, абсолютно бесплатно. Это неотъемлемая часть моего выздоровления.

На момент написания этой истории я не употреблял алкоголь 1 год и 3 месяца благодаря своей Высшей силе, как я ее понимаю, и Сообществу АА!

*Вадим*

# Как спастись от алкоголизма?

**"Анонимные алкоголики" – это содружество, объединяющее мужчин и женщин, которые делятся своим опытом, силами и надеждами с целью помочь себе и другим избавиться от алкоголизма.**



- Единственное условие для членства – это желание бросить пить.
- Мы не платим ни вступительных, ни членских взносов.
- Мы сами себя содержим благодаря нашим добровольным пожертвованиям.
- Сообщество не связано с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или партией; не вступает в полемику по каким бы то ни было вопросам, не поддерживает и не выступает против чьих-либо интересов.
- Наша основная цель: оставаться трезвыми и помочь другим алкоголикам обрести трезвость.

У нас есть программа выздоровления от алкоголизма **(12 шагов)**, которая изложена в книге "Анонимные алкоголики". Она основывается на духовных принципах, которые являются ориентацией на общечеловеческие ценности: любовь к людям, стремление к взаимопомощи, добру и самосовершенствованию.

**12 Шагов АА** – это образ жизни, позволяющий страдающему алкоголику освободиться от пристрастия к алкоголю и стать счастливым и полезным человеком.

Для прохождения программы мы применяем принцип наставничества. Наставничество – это работа по передаче опыта прохождения программы **(12 шагов)** от одного алкоголика другому, а также постоянная ответственность за оказание помощи новичку, чтобы он мог научиться жить без алкоголя.

**Круглосуточная горячая линия АА:**
+375 (29) 276-83-17
+375 (44) 780-73-29

**Где нас найти?**

**г. Витебск**
Группа "Возрождение"
Ул. Гагарина, 46а, костел святого Антония
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.30, воскресенье (открытое собрание) – 14.30.
+375 (33) 696-45-88

**г. Орша**
Группа "Выход есть"
ул. Советская, 6, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00
+375 (29) 590-55-86

**г. Новополоцк**
Группа "Лотос"
ул. Я. Коласа, 52, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00-20.00, воскресенье – 15.00-17.00. Последнее воскресенье месяца – открытое собрание совместно с группой Ал-Анон.
+375 (33) 683-12-76

**г. Браслав**
Группа "Истина"
Ул. Советская, 2.
Расписание собраний: воскресенье – 10.00
+375 (33) 359-97-02

**г. Лепель**
Группа "У озера"
Ул. Ленинская, 12, костел.
Расписание собраний: вторник, четверг – 18.00, суббота – 17.00
+375(29)729-63-70
+375(29)704-72-60

**г. Глубокое**
Группа "Точка отсчёта"
Ул. Советская, 4.
Расписание собраний: воскресенье – 15.00
+375 (29) 519-03-21

**г. Поставы**
Группа "Радость"
Ул. Набережная, 8.
Расписание собраний: среда и воскресенье – 18.00
+375 (29) 737-47-64

**г.п. Шумилино**
Группа "Свет"
ул. Светлосельская 2
суббота 15.00
тел. +375 29 8173632
эл. почта: mifik29@gmail.com

**Ал-Анон** – это содружество родственников и друзей алкоголиков, которые делятся друг с другом своим опытом, силой и надеждой, чтобы решать наши общие проблемы. Мы верим, что алкоголизм – это семейная болезнь, и что перемена отношения к ней способствует выздоровлению. Группы Ал-Анон не связаны с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или сообществом, не участвуют в полемике по каким бы то ни было вопросам, не касающимся нашей деятельности. У нас одна цель – помочь семьям алкоголиков.

**Инфолинии сообщества Ал-Анон Беларуси:**
+375 (29) 550-54-24 инфолиния
+375 (44) 515-29-56 офис РОО

www.alanon.by – сайт сообщества Ал-Анон Беларуси.

### Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Дасылаем словы шчырага віншавання паважанаму **кс. Андрэю Аніскевічу** з нагоды Дня нараджэння і гадавіны святарскага пасвячэння!*

*Жадаем Вам, шаноўны ксёндз Андрэй, моцнага здароўя, душэўнага супакою і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі!*

*Няхай добры Бог благаслаўляе і адорвае Вас усімі патрэбнымі ласкамі!*

***З памяццю і малітвай, парафіяне касцёла св. Казіміра (Лепель)***

### Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Паважаны **ксёндз Віктар**!*

*З нагоды Дня нараджэння шчыра жадаем поспехаў і здзяйснення мар, шмат радасці, здароўя, нястомнага запалу ў святарскай паслузе, зычлівых і ахвярных людзей навокал, а таксама шчырых і адкрытых сэрцаў! Няхай міласэрны Езус заўсёды валадарыць у Вашым жыцці, а Яго Маці нястомна мае Вас у сваёй міласэрнай апецы! Няхай здзяйсняюцца ўсе планы і задумы, сэрца штодня поўніцца радасцю, здароўе не турбуе!*

***З павагай, Іосіф Гаеўскі, в. Прудцы (Каменская парафія), Шчучынскі р-н***

### Хвала Хрысту!



*13 кастрычніка Дзень Анёла азначыў наш **душпастыр Эдвард Ахрамовіч.***

*Шаноўны ксёндз Эдвард! Прыміце нашыя шчырыя віншаванні з гэтай нагоды! Жадаем Вам моцнага здароўя, Божай дапамогі ў служэнні касцёлу, апекі Маці Божай і Анёла Ахоўніка!*

***З павагай і малітвай, вернікі парафіі св. Яна Хрысціцеля (аг. Опса)***

### Пахвалёны Езус Хрыстус!

*У гэтыя прыгожыя восеньскія дні **ксёндз-пробашч Тадэвуш Кавальскі** будзе адзначаць свае імяніны (28 кастрычніка) і Дзень нараджэння (14 лістапада).*

*У сувязі з гэтым хочацца ад шчырага сэрца павіншаваць Вас, дарагі, паважаны і любімы наш ойча Тадэвуш, і пажадаць Вам і Вашым родным моцнага здароўя і даўгалецця! Ідзіце па сваёй дарозе жыцця лёгка, з усмешкай на твары, з дабрынёй і Божай радасцю ў душы! Няхай нябеснае святло, якое асвячае Ваш шлях, ніколі не гасне, а святы заступнік Юда Тадэвуш заўжды ідзе побач з Вамі, дапамагае ў Вашай святарскай працы і асабістым жыцці, ахоўвае ад хвароб і няшчасцяў! Няхай Пан Бог, Дух Святы, Панна Марыя пастаянна пасылаюць Вам з неба любоў, ласку і дабрыню!*

*Дзякуй вялікі Вам за ўсё, што Вы робіце для нас, за мудрыя казанні, за нязмерную любоў да Пана Бога, за Вашу цяжкую працу і святарскае служэнне!*

***З малітвамі, павагай і любоўю, вернікі касцёла Хрыста Валадара ў Бягомлі***

### Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Хачу расказаць чытачам "Каталіцкага Весніка" пра касцёл Божага Провіду ў аграгарадку Слабодка, што на Браслаўшчыне.*

*Здалёк на высокім узгорку бачныя прыгожыя белыя вежы з серабрыстым дахам. Блакітныя азёры, зялёныя лясы і сады атачаюць святыню. Шматлікія турысты з Беларусі і іншых краін прыязджаюць, прываблены яе прыгажосцю.*

*Падмурак сучаснага будынка быў закладзены ў 1901 годзе на месцы меншага ранейшага, фундатарамі якога ў пачатку XIX стагоддзя з'явяліся князі Мірскія з суседняга маёнтка Завер'е. Будаўніцтва вялося да 1903 года. Усе матэрыялы былі загадзя падрыхтаваныя. Ксёндз Юзаф Шымовіч паехаў у Рым і прывёз адтуль адмысловыя скульптуры, якія і цяпер упрыгожваюць тры дубовыя алтары.*

*У вёсцы Завер'е здаўна існавала капліца Маці Божай Суцяшэння, сярод вернікаў быў Марыйны малітоўны культ. Таму ў новым касцёле ў Слабодцы бакавы алтар упрыгожвае скульптура Маці Божай Унебаўзятай Суцяшэння. Якою Марыя прадстаўлена ў "Апакаліпсісе" апостала Яна, такая сустракае вернікаў у Слабодкаўскім касцёле: Панна, апранутая ў сонца, над галавою Яе – 12 зорак, а пад нагамі – рог месяца. Круглы год прыходзяць да Маці-Апякункі, Маці-Заступніцы людзі, мясцовыя і прыезджыя ўскладаюць кветкі. Гучыць Анёльскае Прывітанне "Тваёй абароне аддаёмся". У кастрычніку святар разам з сёстрамі-эўхарысткамі перад алтаром Божай Маці на каленях моляцца на ружанцы.*

*22 кастрычніка **ксёндз-пробашч Лешэк Вітвіцкі,** а законная **сястра Ірэна Сапун** – 4 лістапада адзначаюць Дні народзінаў. Вернікі парафіі віншуюць іх з гэтай нагоды і жадаюць моцнага здароўя, Божага благаслаўлення і апекі Маці Божай!*

***Луцэя Арсюкова***

### Хвала Хрысту!

*Паважаны **ксёндз Віктар Місевіч!***

*З нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца віншуем Вас з пажаданнямі моцнага здароўя ад Пана Бога і ўсіх патрэбных ласкаў, Божага натхнення ў душпастырскім служэнні і ў рэдакцыйнай працы, як мага больш адкрытых людскіх сэрцаў! Няхай Маці Божая ахінае сваёй любоўю і апекай, а Анёл-ахоўнік аберагае ад небяспекі і заўсёды прысутнічае побач з Вамі!*

*Сардэчна дзякуем бацькам за выхаванне цудоўнага сына-святара!*

***Ад усіх вернікаў Мядзельскай парафіі Маці Божай Шкаплернай, Ядвіга Жолнер***

### Вiншуем і дзякуем!

*13 кастрычніка адзначыў імяніны наш **ксёндз-канонік Эдвард Ахрамовіч.***

*Шаноўны ксёндз Эдвард, мы сардэчна дзякуем Вам за ахвярную працу ў нашай парафіі, за добрае сэрца! Вы сапраўды сталі духоўным настаўнікам для кожнага з нас. Прыміце самыя шчырыя словы падзякі за ўсе малітвы, за мудрасць у пабожнасці і дабрыні, за адкрытае і чулае сэрца да людзей!*

*Няхай Ваш нябесны апякун ніколі не пакідае Вас, аберагае, клапоціцца і дапамагае ў нялёгкіх святарскіх справах і асабістым жыцці! Няхай Божая міласэрнасць заўсёды будзе з Вамі і Вашымі роднымі, а Маці Божая апякуецца Вамі і атуляе Сваёй любоўю і цеплынёй! Дух Святы няхай ніколі не пакідае Вас, а Збаўца наш Езус Хрыстус вядзе па прыгожым, хоць і нялёгкім, шляху пастырскага служэння!*

***Вернікі касцёла ў в. Дрысвяты Браслаўскага р-на***

## У Браславе адбудзецца першае дыяцэзіяльнае спатканне груп Апостальства дапамогі душам чысцовым



**29 кастрычніка ў Браславе адбудзецца першае агульнадыяцэзіяльнае спатканне груп Апостальства дапамогі душам чысцовым, якія існуюць у парафіях Віцебскай дыяцэзіі.**

**Праграма:**

10.00 — прывітанне, знаёмства;
— Вяночак за памерлых;
— Святы Ружанец (таямніцы балесныя);
11.00 — канферэнцыя "На шляху да вечнасці" — Місія і заданні Апостальства дапамогі душам чысцовым (Аліна Новікава);
12.00 — канферэнцыя "Малітва за памерлых — актыўны ўдзел у місіі збаўлення душаў" (кс. Мікалай Ціхановіч);
13.00 — святая Імша (цэлебруе біскуп Віцебскі Алег Буткевіч);
— абед і раз'езд.

**Кантактная інфармацыя:**
+375(33) 329-91-62 — кс. Славамір Самковіч, душпастыр груп АДДЧ Віцебскай дыяцэзіі.

## Рэкалекцыі аб 10 Божых наказах пройдуць у Навагрудку

**У канцы месяца, 28-30 кастрычніка ў Навагрудку пры парафіі св. Арханёла Міхала (вул. Міцкевіча, 1) адбудуцца рэкалекцыі для дарослых на тэму "Адкрыць наноў 10 Божых наказаў", якія правядзе кс. Віктар Ханько, пробашч парафіі ў г. Масты.**

У 10 Божых наказах выражаны асноўныя і нязменныя абавязкі чалавека адносна Бога і бліжняга, таму яны актуальныя заўсёды і заўсёды нязменныя. Многія з цяперашніх дарослых вывучалі дэкалог яшчэ ў дзяцінстве, на ўроках рэлігіі. І гэта добра, але чалавек змяняецца напрацягу ўсяго жыцця, і, вядома, гэтыя змены патрабуюць ад нас час ад часу па новаму адказваць на старыя пытанні, шукаць больш глыбокі сэнс.

Мэтай рэкалекцый з'яўляецца новае знаёмства са "старымі" праўдамі.

Запісацца на рэкалекцыі і атрымаць дадатковую інфармацыю можна па нумары:
+37544 771-99-83 - Марына



# Святое Пісанне – “словы жыцця вечнага”

**“Нябачны Бог у сваёй бязмернай любові звяртаецца да людзей як да сяброў і гаворыць з імі, каб запрасіць да супольнасці з Ім і прыняць у яе“ (*DV*, 2). Такім чынам Другі Ватыканскі Сабор у Канстытуцыі *Dei Verbum* (“Божае Слова”) кажа пра Божае Аб’яўленне – крыніцу канчатковай праўды пра паходжанне і прызначэнне чалавека і ўсяго свету. Бог выкарыстоўвае шмат спосабаў, каб адкрыць нам сябе самога і сваю любоў, а Святое Пісанне з’яўляецца Яго асаблівым спосабам аб’явіцца нам.**

■ **Айцец Віктар Жук, SJ** *(Віцебск)*



Мы пачынаем цыкл артыкулаў, прысвечаных нашаму знаёмству з Божым словам, каб лепш разумець і прымаць тое збаўчае пасланне, што захавана ў кнігах Біблії, праз якое Бог жадае дасягнуць нас. Канешне, ніякія тлумачэнні не заменяць прамога кантакту са словамі Пісанняў – тымі словамі, якія, паводле нашай хрысціянскай веры, натхнёныя Духам Святым, каб прывесці нас да пазнання Праўды і да збаўлення. Таму няхай гэты і іншыя матэрыялы стануць у першую чаргу заахвочваннем да самастойнага паглыблення ў кнігі, з якіх складаецца Біблія. Няхай наш непасрэдны кантакт з Пісаннем будзе штодзённым, прынамсі ў мінімальнай меры: не будзем пазбаўляць сябе шанцу быць закранутымі “словамі жыцця вечнага” (Ян 6, 68)!

Найперш затрымаемся на той праўдзе,

**што Божае слова – гэта інструмент Божай усемагутнасці,**

якім Ён усё кліча да існавання. Біблія пачынаецца з таго, што Бог усё стварае сваім словам: “І сказаў Бог… і сталася”. Слова Пана – не проста вібрацыі гукавых хваляў; у арыгінальных мовах Біблії – габрэйскай і грэцкай – “слова” азначае штосьці большае, чым “адзінка інфармацыі” ці “сродак камунікацыі”. Габрэі выкарыстоўвалі той самы выраз (*dabar*) і для “слова”, і для “здарэння, факту”. Для грэкаў *logos* мела значэнне таксама “парадку, ладу, розуму, закону”. Такім чынам, перш чым прыняць форму, даступную і зразумелую для нас, слова Пана з’яўляецца пачаткам існавання ўсяго – у тым ліку цябе і мяне. Больш за тое, праз Евангелле мы даведваемся, што тое Слова, якое “было ў Бога напачатку” і праз якое “усё сталася” (Ян 1, 2-3), – гэта тое ж Слова, якое “сталася целам і пасялілася між намі” (Ян 1, 14): Сын Божы, другая Асоба Найсвяцейшай Тройцы, паводле сыноўняга вобраза якога створаныя мы, людзі. Як тлумачыць Папа Бэнэдыкт XVI, Бог аб’яўляе сябе канчаткова праз свайго Сына –Слова, а Святыя Пісанні захоўваюць словы, каторыя адкрываюць нам аблічча Умілаванага Айцом і Уцелаўлёнай Любові (пар. постсінадальная адгартацыя *Verbum Domini*, 18). Інакш кажучы, для нас, хрысціянаў, Евангелле (у чатырох яго версіях) з’яўляецца найважнейшай кнігай, бо расказвае пра прыйсце ў гэты свет і вяртанне да Айца Езуса Хрыста, Божага Сына, нашага Збаўцы і ўваскрослага Пана, а ўсе астатнія кнігі дапамагаюць зразумець гісторыю збаўлення, якая знаходзіць кульмінацыю ў Езусе.

### Адчуць прагу словаў жыцця

У святле вышэйсказанага становіцца зразумела, чаму ў сэрцы чалавека існуюць голад і прага Божага слова: мы маем патрэбу на нашым жыццёвым шляху ў “суправаджэнні” з боку таго слова, якое дало нам існаванне. Прарок Ісая паэтычнымі вобразамі так кажа пра Божае запрашэнне прыйсці да Яго, каб задаволіць прагу душы: “Сасмаглыя, усе ідзіце да вады! (…) Слухайце ўважліва Мяне і спажывайце дабро, і няхай душа вашая нацешыцца тукам. Схіліце вуха сваё і прыйдзіце да Мяне, паслухайце – і жыць будзе душа ваша” (Іс 55, 1-3). Нам варта ўсведамляць і ўмець прыслухоўвацца да гэтага прагнення ў нашых сэрцах, якое нішто іншае не можа задаволіць. “Навошта вы адважваеце срэбра за тое, што не ёсць хлебам?” – рытарычна пытаецца прарок Ісая, сцвярджаючы, што толькі ў Божым слове чалавек знойдзе адказы на найважнейшыя пытанні адносна свайго прызначэння.

У нашым жыцці мы акружаныя мноствам словаў: слова – гэта сапраўды той дар, які вылучае чалавека між іншых істотаў. Дар, які не толькі ўказвае на наш розум, але і на тое, што мы з’яўляемся *асобамі*, здольнымі ўсведамляць сваё “я” і звяртацца да “ты” іншага (і Іншага). Тыя чалавечыя словы, з якімі мы маем дачыненне, нам вельмі карысныя і патрэбныя: яны дапамагаюць нам даведвацца пра навакольны свет, дазваляюць камунікаваць адно з адным… Словы, якія да нас скіроўваюць дарагія і важныя для нас людзі, з’яўляюцца крыніцай блізкасці, радасці, шчасця, адчування сябе любімымі. Аднак слова можа стаць таксама сродкам хлусні, адчужэння, нянавісці, як, на жаль, мы занадта добра ведаем з уласнага досведу і з навінаў пра тое, што адбываецца ў свеце. У святле веры мы разумеем, што толькі тады, калі чалавечыя словы натхнёныя Божым Словам, яны становяцца каналамі жыццядайнай любові, праўды, цеплыні, пяшчоты. У адваротным выпадку яны здольныя толькі перадаваць нейкую інфармацыю, якая не насычае душу, або могуць дэгенераваць у інструменты смерці.

Вось чаму мы маем патрэбу ў тым, каб мець кантакт са Словам Жыцця, якое будзе асвятляць нашу рэчаіснасць і бараніць яе ад цемры. “Чалавек, які будуе на гэтым слове, будуе дом свайго жыцця на скале“, – піша Бэнэдыкт XVI, звяртаючыся да вобраза з Евангелля паводле Мацвея (гл. *Мц* 7, 24), і дадае: “Божае слова фактычна схіляе нас змяніць нашую канцэпцыю рэалізму: “Рэалістам з’яўляецца той, хто ў Божым слове распазнае падмурак усяго”. Гэта неабходна асабліва ў наш час, калі бачнай становіцца нетрываласць многіх рэчаў, на якіх мы будуем жыццё, на якія мы схільныя спадзявацца” (*Verbum Domini*, 10). Такім чынам,

**“ведаць Пісанне“ азначае не проста спасцігнуць розумам змест, нібыта чытаем падручнік ці газету, але дазволіць, каб Божае слова трапіла ў глыбіню нашай істоты,**

стала асновай нашага ўспрымання і ўсіх жыццёвых рашэнняў. Каб гэта адбылося, трэба малітоўна, г.зн. у дыялогу з Панам, чытаць і засвойваць змест Божага Запавету з намі. Пытанню, “як гэта рабіць?” мы прысвяцім асобна ўвагу ў наступных матэрыялах, але не варта адкладаць сустрэчу з Богам у Яго Слове праз “няўменне маліцца”: самае важнае – гэта прыняць у духу веры тое, што Пан любіць мяне і звяртаецца асабіста, жадаючы штосьці сказаць. І са свайго боку мы мусім быць гатовымі адказаць Яму па меры магчымасці.

Прапаную чытачам, якія адчулі прагу Божага слова, “хатняе заданне”: у духу веры, што Пан сапраўды звяртаецца да мяне праз старонкі Пісанняў, прачытайце першы раздзел Евангелля паводле Яна (лепш не ўсё разам, а за некалькі разоў, перачытваючы асобныя невялікія ўрыўкі). Што ў святле агаворанага ў дадзеным артыкуле вас найбольш закранае ў словах Евангелля? Як канкрэтна гэтыя Пісанні датычаць вашага жыцця? Што застаецца незразумелым? (Не трэба баяцца пытанняў, якія застаюцца пасля чытання Біблії: часта менавіта яны вымушаюць нас шукаць далей і становяцца найбольш плённымі!) Няхай Дух Святы, які натхніў біблійных аўтараў, натхняе таксама і нас, каб мы адкрывалі для сябе Божае пасланне і ўцелаўлялі яго ў сваім жыцці.

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку “Газетная закрыстыя”.**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету “Каталіцкі Веснік”. Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета***
***“Каталіцкі Веснік”***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар’янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце “Газетная закрыстыя”. Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце “Каталіцкі Веснік” Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*“Каталіцкага Весніка”*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Як стаць катэхетам у парафіі?

**– Хвала Хрысту! Маё пытанне датычыцца катэхезы для дзяцей. Хто можа працаваць катэхетам у парафіі? Якія ёсць патрабаванні да свецкіх асобаў? Абавязкова трэба мець адпаведны дакумент (дыплом катэхета) ці не? Ці ёсць наконт гэтага пытання адпаведныя дакументы Касцёла? Дзякуй вялікі за адказ.**

*Аксана*

– Хвала навекі! Паважаная Аксана! Каб дакладней адказаць на Вашае пытанне, трэба зразумець, што такое катэхеза і хто з'яўляецца катэхетам. Для гэтага мы звернемся да Статутаў Сіноду Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, Пінскай і Віцебскай дыяцэзій.

У нумары 396 узгаданых вышэй Статутаў чытаем: "Абвяшчэнне, пераказ і перажытае ўспрыняцце Евангелля праяўляюцца ў партыкулярным Касцёле, г.зн. у дыяцэзіі. Партыкулярны Касцёл складаецца з супольнасці вучняў Езуса Хрыста, якія жывуць у пэўнай грамадска-культурнай сферы". Далей чытаем, што "праз катэхезу дыяцэзія "ахвяруе ўсім сваім чальцам і тым, хто жадае даверыцца Езусу Хрысту, фармацыйны працэс, які дазваляе пазнаць, цэлебраваць, перажываць і абвяшчаць Евангелле ў межах уласнага гарызонту культуры" (397).

Мы бачым, што катэхеза – гэта не звычайныя заняткі па асновах рэлігіі, але "абвяшчэнне, пераказ і перажытае ўспрыняцце Евангелля". А гэта ўжо, у сваю чаргу, штосьці значна большае, чым пераказ "сухіх" ведаў.

Далей Статуты падкрэсліваюць, што за катэхізацыю, за пастаяннае выхаванне веры адказвае ўся хрысціянская супольнасць з улікам асаблівай адказнасці кожнага яе чальца, а таксама таго, каго катэхізуюць. Пераказ веры ў межах супольнасці арганічным чынам здзяйсняюць катэхеты па праве кананічнай місіі, якую выдае дыяцэзіяльны біскуп (399 – 400).

Статуты таксама ўказваюць на тое, хто ў дыяцэзіі з'яўляецца катэхетам. Першае месца прызначана біскупу дыяцэзіі і пра гэта кажуць не толькі самі Статуты, але і Апостальская адгартацыя Папы Яна Паўла ІІ Catechesi tradendae: "Па-першае, я звяртаюся да вас, браты ў біскупстве: ужо Другі Ватыканскі Сабор выразна нагадаў аб вашых абавязках у галіне катэхізацыі, а Айцы Чацвёртай Генеральнай Асамблеі Сінода з націскам пацвердзілі. Гэта вам, дарагія браты, даверана асаблівая місія ў вашых Касцёлах, дзе вы несяце першую адказнасць за навучанне і дзе вы з'яўляецеся першымі катэхетамі. Акрамя таго, згодна з духам біскупскай калегіяльнасці, вы павінны разам з Найвышэйшым Пастырам адчуваць сябе абавязанымі прапаведаваць ва ўсім Касцёле (CT, 63).

Наступнымі катэхетамі з'яўляюцца прэзбітары, пробашчы і выхавальнікі хрысціянскай супольнасці (Статуты, 404 – 408); бацькі (409 – 411); кансэкраваныя асобы (412 – 413) і свецкія катэхеты (414 – 416).

З першага пункту гледжання, можна сказаць, што свецкім катэхетам прызначана апошняе месца ва ўсім вышэйзгаданым "ланцужку". Але, калі мы звернемся да тэксту Статутаў, то для нас адкрываецца зусім іншая перспектыва: "Катэхетычная дзейнасць свецкіх мае своеасаблівы характар, які вынікае з іх месца ў Касцёле. Іх пакліканне да катэхезы паходзіць з сакраманту хросту і канфірмацыі (бежмавання). Дзякуючы гэтым сакрамантам яны ўдзельнічаюць у "святарскай, прароцкай і валадарскай місіі Хрыста". Яны, падзяляючы той жа самы стыль жыцця з тымі, каго катэхізуюць, могуць кампетэнтна дапамагаць у фармаванні іх жыцця паводле святога Евангелля" (413).

Касцёл абуджае і распазнае гэтае Божае пакліканне да катэхізацыі і згодна з прадпісаннямі нарматыўных дакументаў дае для яе кананічную місію.

Першым такім дакументам з'яўляецца Кодэкс Кананічнага Права. У парафе 1 канона 228 чытаем: "Свецкія вернікі, прызнаныя прыдатнымі, з'яўляюцца здольнымі прымаць ад святых пастыраў тыя касцельныя пасады і заданні, якія могуць выконваць згодна з прадпісаннямі права". Як было ўзгадана вышэй, свецкім вернікам і кансэкраваным асобам для таго, каб быць катэхетам, неабходна мець кананічную місію [пэўнага кшталту дазвол], выдадзеную дыяцэзіяльным біскупам (*Статуты*, 400).

Можа ўзнікнуць пытанне, дзеля чаго Касцёл "акружыў сябе" вялікай лічбай дакументаў і чаму звычайны чалавек не можа проста стаць катэхетам? Менавіта дзеля таго, каб перадавалася чысціня веры. Не нейкія "асабістыя ідэі" пэўнага чалавека, а той скарб веры, які пакінуў нам Езус Хрыстус і які праз вякі захоўваўся Касцёлам. Таму "абвяшчэнне, пераказ і перажытае ўспрыняцце Евангелля" павінна перадавацца адпаведна падрыхтаванымі асобамі.

На гэта звяртае ўвагу Кодэкс Кананічнага Права, кажучы, што "Ардынарыі месца павінны клапаціцца, каб катэхізатары атрымлівалі адпаведную падрыхтоўку для належнага выканання свайго задання, а менавіта неабходна забяспечыць ім пастаянную фармацыю, каб яны маглі належным чынам пазнаваць навучанне Касцёла, а таксама тэарэтычна і практычна засвойваць нормы педагагічных навук" (кан. 780).

"У ажыццяўленні місійнай дзейнасці павінны быць задзейнічаны катэхізатары, а менавіта належна падрыхтаваныя свецкія вернікі, якія вызначаюцца хрысціянскім жыццём. Яны павінны пад кіраваннем місіянера займацца выкладаннем евангельскага вучэння, арганізацыяй літургіі і спраў міласэрнасці.

Катэхізатары павінны праходзіць фармацыю ў прызначаных для гэтага школах, а там, дзе іх няма, – пад кіраўніцтвам місіянераў" (кан. 785).



З гэтага мы бачым, што для таго, каб стаць катэхетам, трэба не толькі мець адпаведную адукацыю, але і адпаведны дакумент. Толькі пры наяўнасці і аднаго і другога свецкі вернік і кансэкраваныя асобы могуць выконваць вельмі важную місію катэхізацыі.

Што датычыць дакументаў Касцёла, то іх дастаткова шмат. Асноўным дакументам у галіне катэхізацыі з'яўляецца "Дырэктыва для катэхез", выдадзеная ў 2020 годзе Папскай Радай па садзейнічанні новай евангелізацыі.

Яшчэ адным важным дакументам у галіне катэхізацыі з'яўляецца "Апостальскі ліст Папы Францішка *Antiquum ministerium*", якім Святы Айцец устанаўлівае паслугу катэхета.

У пачатку свайго ліста Папа піша: "Паслуга катэхета ў Касцёле вельмі старажытная. Тэолагі сыходзяцца ў меркаванні, што першыя катэхеты згадваюцца ўжо на старонках Новага Запавету. Настаўніцкая паслуга знаходзіць сваю першапачатковую форму ў "настаўніках", якіх згадвае Апостал, калі піша да супольнасці ў Карынце: "Адных Бог паставіў у Касцёле найперш апосталамі, другіх – прарокамі, трэціх – настаўнікамі, потым даў моц, потым – дары аздараўлення, дапамогі, кіравання, розныя мовы. Ці ўсе апосталы? Ці ўсе прарокі? Ці ўсе настаўнікі? Ці ўсе цудатворцы? Ці ўсе маюць дар аздараўлення? Ці ўсе гавораць мовамі? Ці ўсе тлумачаць? Дбайце пра большыя дары, і я пакажу вам яшчэ лепшы шлях" (1 Кар 12, 28-31) (*AM*, 1).

Папа Францішак падкрэслівае, што "паслуга катэхета мае высокае прафесійнае значэнне, якое патрабуе належнага распазнання з боку Біскупа і падкрэслівання ў абрадзе ўстанаўлення. Сапраўды, гэтая паслуга з'яўляецца пастаянным служэннем мясцоваму Касцёлу, згодна з пастырскімі патрэбамі, прызнанымі мясцовым ардынарыем, але здзяйсняецца ў свецкім парадку ў адпаведнасці з самой прыродай гэтага служэння. Добра, каб мужчыны і жанчыны глыбокай веры і чалавечай сталасці былі пакліканы да паслугі катэхетаў, каб прымалі актыўны ўдзел у жыцці хрысціянскай супольнасці, каб маглі прымаць іншых, быць шчодрымі і жыць у братэрскай камуніі, каб атрымалі адпаведную біблійную і тэалагічную фармацыю, душпастырскую і педагагічную, каб яны былі ўважлівымі вестунамі праўды веры і мелі вопыт катэхізацыі (ІІ Ватыканскі Сабор, Дэкрэт *Christus Dominus*, 14; ККП кан. 231 §1; ККУЦ кан. 409 §1). Ад іх патрабуецца быць вернымі супрацоўнікамі святароў і дыяканаў, гатовымі да выканання служэння ў выпадку неабходнасці і натхнёнымі сапраўднай апостальскай руплівасцю" (*AM*, 8).

Гэтым дакументам Рымскі Пантыфік запрашае Канферэнцыі Біскупаў "ажыццяўляць служэнне катэхізацыі, устанаўлівкючы неабходны шлях фармацыі і нарматыўныя крытэрыі, неабходныя для атрымання гэтай паслугі, і знаходзячы адпаведныя формы служэння тых, хто пакліканы выконваць яго ў адпаведнасці з выказаным у гэтым Апостальскім лісце (*AM*, 9).

*З павагай,*
***кс. Аляксей Ляшко,***
*афіцыял Біскупскага Суда Віцебскай дыяцэзіі*

# Як вярнуцца да жыцця ў веры ў Хрыста пасля захаплення эзатэрыкай?

**Адказваючы на пытанне пра эзатэрыку, хацелася б забегчы наперад, а менавіта адказаць на іншае пытанне: зыходзячы з любога граху, як увайсці ў асабістыя адносіны з Панам?**

Эзатэрыка сыходзіць сваімі каранямі ў антычнасць. Прайшоўшы праз стагоддзі, гэтая згуба атруціла многія чалавечыя душы і працягвае гэта рабіць да нашага часу.

Эзатэрыка ўключае ў сябе астралогію, ёгу, магію, тэасофію і многія іншыя ілжэвучэнні. Акультызм і акультныя практыкі з'яўляюцца неад'емнымі складнікамі эзатэрыкі. Лічыцца, што эзатэрычныя "веды" заўсёды былі таемнымі, і валодалі імі толькі асаблівым чынам пасвечаныя ў іх "тонкасці" людзі. Некаторыя з тых, хто займаецца эзатэрыкай, запэўніваюць, што іх вучэнні і практыкі дапушчальныя і карысныя для прадстаўнікоў усіх веравызнанняў, бо яны быццам бы спрыяюць больш высокаму духоўнаму развіццю.

**Эзатэрыка – гэта парушэнне першай запаведзі, у якой гаворыцца пра ўшанаванне Адзінага Бога,**

пра тое, каб толькі з Ім мець адносіны. Першае, з чаго трэба пачаць свой шлях пакаяння, – гэта, вядома, споведзь.

Асабіста маё меркаванне, хоць яно і заснавана на адносна невялікім досведзе малітваў аб вызваленні, унутраным аздараўленні, – што лепш за ўсё прыступаць да споведзі з усяго жыцця. Чаму так? Бо інтарэс і прывязанасць да эзатэрыкі мае свае карані, і яны схаваныя ў маім мінулым, маім выхаванні, маёй сям'і, маіх ранах... Д'ябал умее спрытна навязваць людзям свае планы. Таму было б добра паадракацца ад усіх грахоў і іх наступстваў у маім жыцці.

Вяртанне да Пана – гэта шлях, які прасякнуты, вядома, малітвай, размовамі са спаведнікам, духоўнікам. Можна было б параіць прайсці хрысціянскія курсы, на якіх у першую чаргу чалавек пазнае Святое Пісанне, біяграфіі святых, гісторыю і традыцыю Касцёла.

Жыць сакрамантамі Касцёла, такімі, як, напрыклад, Эўхарыстыя, – гэта адзін з важных падмуркаў духоўнага жыцця.

Таксама парада – мець побач чалавека, які больш дасведчаны ў духоўным жыцці і які б падказваў мне многія моманты рэлігійнага жыцця.

*З павагай,*
***кс. Віктар Ханька***
*grodnensis.by*




**Дарагі сябра! Тэма сённяшняй "Пазнавайкі" "З Богам у бяспецы".**

*Часам чалавека можа ахопліваць страх. Хтосьці баіцца прыродных катаклізмаў, а хтосьці непакоіцца, каб не стаць выгнаннікам у вачах іншых. Страхі бываюць рознымі, аднак ты, дарагі сябра, павінен ведаць, што з Богам ты заўсёды ў бяспецы нягледзячы ні на што!*

## ЗАДАННЕ 1.

*Перанясі словы ў новыя кружочкі па стрэлках. Прачытай уважліва выраз, які атрымаўся.*




## ЗАДАННЕ 2.

*Распляці блытаніну!!! Выканай заданне і даведаешся, што гаворыць наступнае біблейскае выслоўе. Разам з кімсьці дарослым паразважай над гэтымі атрыманымі словамі.*




## ЗАДАННЕ 3.

*Праз наступнае заданне ты даведаешся, з якімі словамі, звязанымі з бяспекай, параўноўваецца Бог у Біблії. Злучы правільна, падабраўшы фігуркі. Правядзі лініі і прачытай, што атрымалася.*




## ЗАДАННЕ 4.

*Злучы ўсё па парадку і прачытай словы аднаго з псальмаў! Адказ запішы ўнізе.*




## ЗАДАННЕ 5.

*Наступнае заданне – гэта словы для цябе ад «Пазнавайкі". Выканай яго ў правільным парадку і запішы, што атрымалася.*




*Мастачка:* **Вольга Будкіна**; *ідэя:* **Ірына Радзевіч**

# Распачалася падрыхтоўка да V Дыяцэзіяльнага конкурсу на веданне Святога Пісання 2023

Карытас Віцебскай дыяцэзіі сардэчна запрашае да ўдзелу ў **V Дыяцэзіяльным конкурсе на веданне Святога Пісання** дзяцей з каталіцкіх парафій Віцебскай дыяцэзіі, а таксама гасцей з Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Каардынатарам конкурсу з'яўляецца **сястра Дар'я Галубкова OV.**

Удзельнікі конкурсу, як заўсёды, будуць падзеленыя на дзве ўзроставыя катэгорыі: **1 катэгорыя – дзеці ад 9 да 11 гадоў уключна (могуць быць маладзейшыя); 2 катэгорыя – дзеці ад 12 да 14 гадоў уключна.**

Асновай конкурсных матэрыялаў у 2023 годзе будзе змест наступных кніг Біблії: **Кніга Эстэр (Есфирь) са Старога Запавету і Дзеі Апосталаў (Деяния Апостолов) з Новага Запавету.**

Правядзенне першага этапу запланаванае **на канец лютага – пачатак сакавіка 2023 года.** Фармуляр заяўкі на ўдзел у Конкурсе, а таксама рэгламент і іншая патрэбная інфармацыя для ўдзельнікаў і катэхетаў будуць даступныя на пачатку новага года.




**Пытанні і прапановы**, звязаныя з Конкурсам, можна накіраваць на паштовую скрыню **vitebsk.caritas@gmail.com**

# Каляндар на лістапад

**1 лістапада – урачыстасць Усіх Святых.**

**2 лістапада – успамін усіх памерлых вернікаў.**

**4 лістапада – успамін св. Караля Барамэя, біскупа.**

**9 лістапада – свята Гадавіны пасвячэння Латэранскай базілікі.**

**10 лістапада – успамін св. Льва Вялікага, папы і доктара Касцёла.**

**11 лістапада – успамін св. Марціна Турскага, біскупа.**

**12 лістапада – урачыстасць святога Язафата Кунцэвіча, біскупа і мучаніка, галоўнага апекуна Віцебскай дыяцэзіі.**

**16 лістапада – успамін Маці Божай Вострабрамскай.**

**17 лістапада – успамін св. Альжбеты Венгерскай, законніцы.**

**20 лістапада – урачыстасць Пана Нашага Езуса Хрыста, Валадара Сусвету.**

**21 лістапада – успамін Ахвяравання Найсвяцейшай Панны Марыі.**

**22 лістапада – успамін св. Цэцыліі, панны і мучаніцы.**

**24 лістапада – успамін св. Андрэя Зунг Лака, святара, і паплечнікаў, мучанікаў.**

**30 лістапада – свята св. Андрэя, апостала.**

## У Тайландзе ўпершыню за 93 гады ўлада легалізавала дзейнасць трох каталіцкіх касцёлаў

**Тры каталіцкія касцёлы і шэсць будыйскіх храмаў былі легалізаваныя 23 жніўня ў Тайландзе. Гэта першы выпадак прызнання хрысціянскіх месцаў культу ў гэтай краіне, пачынаючы з 1929 года, то бок, за амаль стагоддзе – за 93 гады. Тады дзяржава дазволіла дзейнасць 57 святыням.**

Установы былі зацверджаны ў адпаведнасці з новым законам, прынятым у мінулым годзе. Асноўнай умовай легалізацыі з'яўляецца прысутнасць святара і па меншай меры 200 пастаянных вернікаў, аднак дыяцэзіі могуць папрасіць звязкчыць названыя крытэрыі. Гэтым летам у Тайландзе атрымалі дазвол на дзейнасць касцёла святога Тамаша Апостала ў Бангкоку, святой Монікі ў правінцыі Нан і святога Язэпа ў правінцыі Пхраэ.

Па дадзеных на 2019 год, у Тайландзе пражывае 388 тысяч католікаў, што складае агулам невялікі працэнт насельніцтва гэтай пераважна будыйскай краіны. Касцельная структура налічвае дзве архідыяцэзіі, дзевяць дыяцэзій і пяцьсот дзве парафіі. Пры гэтым Касцёл у Тайландзе мае ўсяго шэсцьдзясят зацверджаных месцаў пакланення.

*Па матэрыялах Vatican News*
*Пераклад* ***Марыны Ткач***

## У ЗША з'явілася праграма "Вяртанне Дадому" для католікаў, якія пакінулі Касцёл

**Пра з'яву вяртання ў Касцёл тых католікаў, якія пакінулі яго, у тым ліку праз пандэмію, паведаміла платформа Yahoo.**

Паводле яе слоў, парафіі ў розных дыяцэзіях абапіраюцца на 6-тыднёвую праграму "Inviting Catholic Home" (Запрашэнне католікаў Дадому). Яна была распрацаваная яшчэ ў 2014 годзе свецкай асобай Салі М'юз, якая раней сама пакінула Касцёл, але пазней зноў вярнулася.

У інтэрв'ю амерыканскай сетцы Daily Record Салі М'юз падкрэсліла, што мэта праграмы заключаецца ў тым, каб "адкрыць касцельныя дзверы для тых, хто па розных прычынах пакінуў Касцёл, а цяпер хацеў бы па-новаму пагледзець, чым для іх з'яўляецца каталіцкая вера".

Па словах ініцыятара праграмы, за аснову быў узяты прынцып: "нікога не асуджаць, а наадварот, неабходна, каб яе ўдзельнікі адчувалі і разумелі, што яны не адзінокія ў сваіх пошуках". Пасля завяршэння гэтай 6-тыднёвай праграмы яе можна працягваць у якасці евангелізацыйнай дзейнасці, – дадае аўтар.

*idziemy.pl*
*Пераклад* ***Марыны Ткач***

## Ахвяруй на "Каталіцкі Веснік"

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Дасылаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*375295105172*2# — калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі
*363*375295105172*5# — калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў
(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання)
2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.
3. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*[код пацвярджэння]#
4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

**Увага!** Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

**Увага!** Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС. Калі Вы з'яўляецеся абанентам А1 ці іншага мабільнага аператара ў Беларусі і жадаеце ахвяраваць на "Каталіцкі Веснік", Вы можаце проста папоўніць баланс тэлефона: +375295105172.

**Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by!** За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9:**
1. Ерузалем; 2. Ерамія; 3. Ерыхон; 4. Езуіты; 5. Евангелле; 6. Ёзіча; 7. Еднасці; 8. Евангелісты; 9. Егіпет, Егіпце. 10. Ева.



Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:**
мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:**
рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:**
кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:**
Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:**
Марына Сінкевіч
**Карэктары:**
Юрась Бабіч,
Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 5307

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2500 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк

Падпісана ў друк 20.10.2022 г. у 13.40

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:**
211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621




Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь